ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## МІЖНАРОДНЫ АНТЫВАЕННЫ ЧЫРВОНЫ ДЗЕНЬ — 1 ЖНІЎНЯ

ЛІПЕНЬ

№ 2

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1932

З Ь М Е С Т



Заказ № 1712. 10.000 экз. (4 арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 683.

Друкарня імя Сталіна.




## Пляи дакладу

ДЛЯ ЗАЎВАГ

1. Кароткая гісторыя антываеннага ці „Міжнароднага Чырвонага дня“.

2. Асаблівасьці 1 жніўня ў гэтым годзе (непасрэдная небясьпека вайны супроць СССР, рэзкае абвастрэньне клясавай барацьбы Германіі, Бэльгіі і інш. краінах, абвастрэньне антыімпэрыялістычных супярэчнасьцяй, імпэрыялістычны разбой на Далёкім Усходзе і т. д.).

3. Паглыбленьне і пашырэньне сусьветнага экономічнага крызісу і бурны ўздым у СССР (распаўсюджаньне крызісу на Францыю

Бэльгію, і іншыя краіны, раней не ахопленыя крызісам, больш рэзкае скарачэньне продукцыі цяжкой прамысловасьці, чым лёгкай, у Амэрыцы, Германіі і іншых краінах, павышэньне адноснае вагі сельскае гаспадаркі ў народнай гаспадарцы Германіі і іншых краінах, г. зн. процэс аграрызацыі перадавых капіталістычных краін, заклікі да забароны тэхнічных вынаходак,—з аднаго боку; бурны ўздым народнай гаспадаркі СССР, індустрыялізацыя краіны, тэхнічнага ўзброеньня сельскай гаспадаркі, бесьперапынны рост адноснае вагі прамысловасьці, асабліва цяжкой, у народнай гаспадарцы СССР, найвялікшыя геолёгічныя адкрыцьці і тэхнічныя вынаходкі ў СССР і т. д.).

4. Рост галечы і голаду ў краінах капіталізму (рост беспрацоўя,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

зьніжэньне зарплаты, ліквідацыя сацыяльнага страхаваньня ў Германіі і іншых краінах, дзесяткі мільёнаў галадуючых у Амэрыцы, Германіі, Кітаі, Польшчы і т. д., гіганцкі рост самазабойстваў у гарадох і вёсках краін капіталізму) і бязупынны ўздым матэрыяльна-бытавога ўзроўню працоўных мас у СССР.

5. Ліхаманкавая падрыхтоўка вайны супроць СССР і фашысцкі курс у краінах „дэмократыі“ як асноўны мэтод імпэрыялістычнай буржуазіі ў яе пошуках выхаду з крызісу.

6. Рэзкае абвастрэньне імпэрыялістычных супярэчнасьцяй (абвастрэньне японa-амэрыканскіх супярэчнасьцяй у сувязі з захопам Японіяй Манчжурыі, абвастрэньнем англа-амэрыканскіх супярэчнасьцяй у сувязі з рэпарацыямі і т. д.).

ДЛЯ ЗАЎВАГ

7. Шалёная падрыхтоўка вайны пад прыкрыцьцем „разбройвальных“ конфэрэнцый.

8. Барацьба Комінтэрну і кіруемых ім шырокіх мас рэволюцыйнага пролетарыяту і працоўных за рэволюцыйны выхад з крызісу, (героічная барацьба кітайскай Чырвонай арміі, шанхайскія падзеі, хваляваньне ў японскай арміі, новае ў міжнародным рабочым руху—магутная стачачная хваля ў Польшчы, Чэха-Славакіі, Бэльгіі і т. д., якая падводзіць шырокія рабочыя масы да рэволюцыйных баёў; рост адзінага анты-фашысцкага фронту ў Германіі; шпаркае насьпяваньне рэволюцыйнага крызісу ў Польшчы і т. д.).

9. Барацьба савецкага ўраду за мір як састаўная частка нашых баёў за пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадз-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

тва, за перамогу сусьветнай рэволюцыі.

10. Найвялікшае значэньне нашай барацьбы за выкананьне прамфінпляну, за захаваньне і збор ураджаю і сваячасовае выкананьне цэнтралізаваных загатовак і т. д. у справе ўмацаваньня абароназдольнасьці краіны і падрыхтоўкі да рашаючых гістарычных баёў. СССР—ударная брыгада сусьветнага пролетарыяту.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## МІЖНАРОДНЫ АНТЫВАЕННЫ ЧЫРВОНЫ ДЗЕНЬ—1 ЖНІЎНЯ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Кароткая гісторыя Міжнароднага чырвонага дня

У 1928 г. VI кангрэс Комінтэрну, на якім былі прадстаўлены комуністычныя дэлегацыі 57 краін, прыняў рашэньне з 1 жніўня 1929 г.,— са дня 15-годзьдзя сусьветнай вайны, арганізаваць Міжнародны чырвоны дзень. Гэты дзень быў устаноўлены як дзень агляду баявых сіл міжнароднага пролетарыяту, як дзень барацьбы супроць падрыхтоўкі новай вайны, для барацьбы супроць падрыхтоўкі нападу на Савецкі саюз, для барацьбы супроць імпэрыялізму і галоўнага яго пасобніка— соцыял-фашыстаў, якія прыкрываюцца хлусьлівай маскай працiўнікаў вайны.

1 жніўня 1929 г. пад кіраў-

ніцтвам комуністычных партый ва ўсіх краінах Эўропы, Амэрыкі і Азіі адбыліся магутныя масавыя дэмонстрацыі і палітычныя забастоўкі протэсту. Была шырока разгорнута антываенная пропаганда сярод салдат і матросаў. Буржуазія таксама мобілізавала ўсе свае сілы і сродкі для прыдушэньня рэволюцыйных выступленьняў. Быў прыведзены ў баявую гатоўнасьць увесь вайскова-поліцэйскі апарат, клясава-буржуазны суд, буржуазны і соцыял-фашысцкі друк. У шмат якіх краінах, асабліва ва Францыі, вайскова-поліцэйскія падрыхтаваньні набылі такія разьмеры, што компартыя фактычна была абвешчана па-за законам, а яе цэнтральны орган—„Юманітэ“—конфіскаваны. Былі праведзены масавыя арышты комуністаў, зруйнаваны памяшканьні компартыі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

і рабочых організацый, якія знаходзіліся пад яе ўплывам.

І ўсё-ж, ня гледзячы на шалёны поліцэйскі тэрор, пад баявыя сьцягі Комінтэрну 1 жніўня вышлі мільёны рабочых Германіі, Францыі, Амэрыкі, Англіі, Польшчы, Чэха-Славакіі, Румыніі, Італіі, Швэцыі, Норвэгіі, Вэнгрыі, Баўгарыі, Кітаю, колёніяльных краін. Гэты дзень быў адзначаны магутнымі выступленьнямі бэрлінскіх рабочых, асабліва пролетарскіх кварталаў Нэйкельна і Вэдынга. Вялізныя выступленьні здбыліся ў Нью-Ёрку і Чыкаго.

Сьмела, ня гледзячы на поліцэйскія залпы і жорсткія зьбіваньні, вышлі на вуліцу рабочыя Варшавы, Лодзі, Вільні. У некаторых краінах адбыліся паграічныя братаньні пролетараў пад лёзунгамі барацьбы супроць

ДЛЯ ЗАЎВАГ

не бясьпекі новай сусьветнай бойні і абароны СССР.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Экономічны крызіс у капіталістычных краінах рэзка паглыбіўся

На першажнівеньскую дэманстрацыю гэтага году міжнародны пралетарыят выйдзе ва ўмовах далейшага разьвіцьця і паглыбленьня экономічнага крызісу, які ахапіў прамысловасьць, сельскую гаспадарку і крэдытна-грашовую сыстэму ўсяго капіталістычнага сьвету.

У сьвеце імпэрыялістаў як мыльныя пузыры лопаюцца нядаўна яшчэ магутныя трэсты, концэрны і банкі, узрушаючы да асновы гнілую глебу гаспадаркі капіталізму. Збанкрутаваўся сусьветны концэрн „запалкавага караля“ Эвара Крэйгера, а сам Крэйгер скончыў самагубствам; збанкрутаваўся буйны германскі трэст мотора - самалётабудаўніцтва,

„Юнкерс вэрке“, збанкрутавалася аб‘яднаньне буйнейшых германскіх паравозабудаўнічых заводаў Борзіга, збанкрутавалася канадзкая, другая паводле велічыні сталяліцейная компанія „Альгема сьцількомпані“, капітал якой у 1929 г. складаў 52 млн. доляраў. Крах гэтай фірмы—адна з буйнейшых падзей на амэрыканскім контынэнце за ўвесь час крызісу.

Экономічны крызіс прывёў да рэзкага зьніжэньня вытворчасьці. Так, паводле далёка няпоўных вестак, у ПАЗШ у пачатку ліпеня з 297 доменных печаў, дзейнічалі толькі 46 печаў, аўтапрамысловасьць скараціла вытворчасьць на 85—90 проц.

У англійскім часопісе „Экономіст“ падаецца характэрная табліца скарачэньня вытворчасьці вугалю, чыгуну і сталі ў галоўных

ДЛЯ ЗАЎВАГ

прамысловых краінах Эўропы. Супастаўленьне сярэднямесячнай выпрацоўкі да вайны к пачатку крызісу (1929 г.) і ў красавіку 1932 г. выглядае так: (гл. табл. на стар. 12).

З гэтай таблічкі відаць, што сумесная продукцыя трох галоўных прамысловых краін скарацілася супроць даваеннай: па вугалі—з 43,5 млн. *т* у месяц да 28,4 млн. *т*, г. зн. на 1/3. Па чыгуне—з 2,7 млн. *т* да 1,1 млн. *т.*,—на 3/5, і па сталі—з 2,5 млн. *т* да 1,4 млн. *т*, больш чым на 2/5.

Адначасова нарастае хваля банкаўскіх крахаў. Так, у Амэрыцы, найбольш „багатай“ краіне, пацярцелі крах у чэрвені 131 банк, у той час, як у маі спынілі плацяжы 80 банкаў, у красавіку—75 і ў сакавіку—53. Узрастаючы нябывалы крызіс павялічвае ўсе-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

(У тысячах тон)

| | Вугаль | | | Чыгун | | | Сталь | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 | 1929 | 1932 | 1913 | 1929 | 1932 | 1913 | 1929 | 1932 |
| Англія . . | 24337 | 21837 | 16138[1] | 869 | 643 | 320[1] | 649 | 816 | 430[1] |
| Германія . | 15842 | 13620 | 8501 | 1397 | 1117 | 336 | 1467 | 1354 | 521 |
| Францыя . | 3338 | 4490 | 3757[1] | 434 | 864 | 459 | 391 | 808 | 457 |

[1]) Майская лічба

ДЛЯ ЗАЎВАГ

агульнае замяшаньне і паніку. Баючыся банкроцтва банкаў, укладчыкі забіраюць свае сродкі і хаваюць іх дома.

Гураган крызісу бушуе з ўсё ўзрастаючай сілай. Ён цяпер ня толькі гасіць доменныя печы і апальні заводаў, ён ня толькі зачыняе шахты і нафтавыя шчыліны, але і бязьлітасна руйнуе прадпрыемствы. Гэтымі днямі апублікавана паведамленьне аб тым, што славутыя саксонскія машынабудаўнічыя заводы Гартмана, якія налічвалі 116 будынкаў і цэхаў і спынілі работу паўтара гады назад, цяпер зносяцца бо будынкі не пакрываюць аплаты зямельных падаткаў і выдаткаў на ахову будынкаў.

Экономічны крызіс, які паглыбляецца, прывёў ужо да таго, што высокапрамысловая Германія з краіны, якая вырабляла

сродкі вытворчасьці, усё больш ператвараецца ў краіну лёгкай індустры, у краіну, дзе адносная вага сельскагаспадарчай продукцыі ўсё больш узрастае. Так, калі ў 1928 г. продукцыя прамысловасьці займала 3/4 усёй агуловай продукцыі народнай гаспадаркі, дык ужо к 1931 г. роля прамысловасьці зьнізілася да 2/3 агульнай сумы, наадварот-жа, вага сельскай гаспадаркі павысілася з 24,5 да 34,5 проц. За час з 1931 г. экономічнае становішча Германіі рэзка пагоршылася, і паказальнікам гэтага можа служыць тое, што спажываньне жалеза ў Германіі складае цяпер толькі 10—15 проц. да ўзроўню 1927 г. Германія, у выніку крызісу, пачала набліжацца паводле структуры сваёй прамысловасьці да найбольш адсталых краін. Яна адкінута назад на дзесяткі гадоў.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Уплыў крызісу на структуру гаспадаркі Германіі

| Гады | Адносная вага германскай прамысловасьці ў сусьветнай прамысловай продукцыі | Адносная вага ў вытварэньні матэрыяльных каштоўнасьцяй (с.-г. + + прамысловасьць) у Германіі | Адносная вага галін, якія выробляюць сродкі вытворчасьці, у германскай прамысловасьці |
|---|---|---|---|
| 1928 | 11,6 | 75,5 | 55,0 |
| 1929 | 10,9 | 72,7 | 58,5 |
| 1930 | 10,3 | 70,2 | 52,6 |
| 1931 | 9,2 [1] | 65,5 | 43,0 [1] |

[1]) Канец году.

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

У вадаварот крызісу ўцягнуты цяпер краіны-пераможніцы, якія параўнаўча моцна трымаліся і да апошняга году жывіліся матэрыяльнымі сокамі германскіх рэпарацый. Крызіс ужо бушуе ва Францыі і Бэльгіі, якія страцілі рынкі збыту і сустрэліся тварам у твар з новымі арміямі беспрацоўных. У выключна цяжкім стане знаходзіцца гаспадарка фашысцкай Польшчы. Прамысловыя раёны краіны ўсё больш заміраюць. Лопнуў мэталюргічны концэрн „Гута покою“ у Верхняй Сілезіі, дзе было занята 15 тысяч рабочых і тысяча служачых. Закрыты амаль усе тэкстыльныя фабрыкі Лодзі, Беластоку, Бельску. Доменныя печы загружаны толькі на 13 проц. параўнаўча з даваенным часам. Рад шахт, жалезных і цынкавых рудняў

кінуты на волю лёсу і затоплены вадой. Польскія фашысты з жахам глядзяць наперад эканомічнай і палітычнай катастрофе, якая ўсё больш набліжаецца.

Прадстаўнік компартыі Польшчы ў Комінтэрне т. Ленскі ў артыкуле „Чацьверты год крызісу ў Польшчы“ падае наступныя матэрыялы:

„Глыбокі застой ахапіўшы усё гаспадарчае жыцьцё Польшчы, штурхае ў багну ўбоства мільённыя працоўныя масы. Продукцыя сродкаў вытворчасьці складае толькі палавіну лічбаў 1928 г.

Выпрацоўка жалеза зьменшылася ў мінулым годзе на 40 проц., сталі—на 55 проц. Спажываньне жалеза на ўнутраным рынку менш 1 *кг* кожны месяц на душу насельніцтва— г. зн., многа менш усякай нормы краін з мінімальным

ДЛЯ ЗАЎВАГ

узроўнем прамысловай продукцыі. Рад шахт жалезнай і цынкавай руды заліты вадою. Доменная вытворчасьць за апошнія чатыры гады апусьцілася да самага нізкага ўзроўню. Штомесячная продукцыя цынку ўпала з 14 да 8 тыс. *т*.

Нават цяперашні нізкі ўзровень доменнай прамысловасьці ($^1/_5$ вытворчай здольнасьці) магчымы толькі дзякуючы пабудове стратэгічных шляхоў. Растуць запасы вугалю на складах. Польскі вугаль выціскаецца ангельскай конкурэнцыяй з замежных рынкаў. Скарачаюцца таксама і ўсе іншыя галіны прамысловасьці. Вытворчасьць белага цукру за мінулы год зьменшылася на 30 проц. Продаж цэманту зьнізіўся на 25 проц. Хімічныя фабрыкі працуюць выключна на вайну. З 13 існуючых у

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Польшчы фабрык супэрфосфату працуе толькі адна. Асеньні продаж супэрфосфату ў параўнаньні з 1930 г. зьменшыўся на 60 проц. Дрэваапрацоўчая прамысловасьць знаходзіцца ў становішчы амаль поўнага банкруцтва".

**Крызіс у сельскай гаспадарцы**

У сусьветнай сельскай гаспадарцы крызіс прывёў да вялізнага павялічэньня запасаў збожжавых культур, рэзкага зьніжэньня цэн і надзвычайна значнага зьніжэньня засеўных плошчаў. Сусьветныя запасы збожжа за апошнія два гады павялічыліся з 11 млн. *т* да 14,5 млн. *т*. Падзеньне цэн ці адсутнасьць збыту разарыла мільёны дробных і сярэдніх гаспадарак, павялічвае армію беспрацоўных, стварае новыя шматмільённыя кадры галечы,

якая набыла жахлівыя разь- меры.

У тым-жа артыкуле „Чацьверты год крызісу ў Польшчы“ т. Ленскі апавядае:

„Усё больш абвастраецца аграрны крызіс. Паказальнік цэн сельгапродуктаў (прымаючы 1927 г. за 100) упаў да 60 проц. Спэкуляцыйны рост цаны на жыта і пшаніцу за апошнія месяцы не адыграў значнай ролі, бо цэны на ўсе іншыя продукты, асабліва жывёлагадоўчыя, прадаўжалі падаць. Абцяжаныя і разароныя падаткамі сялянскія масы распрадаюць за бясцэнак хатнюю жывёлу. Вельмі часты выпадкі продажу коняй за 1/2 — 1 доляр. Дэфіцытная і ліхвяская запазычанасьць дробнай і сярэдняй сялянскай гаспадаркі расьце з кожным днём. Пазыковыя

ДЛЯ ЗАЎВАГ

процанты дасягаюць 84 у год. Пры пазыках натураю яны даходзяць да 500, зьяўляючыся адным з найбольшых фактараў разарэньня і экспоропрыяцый сялянскіх мас“.

Вось чаму орган лодзінскіх фабрыкантаў, падводзячы вынікі 1931 г., вымушан быў адзначыць, што „на шэрым фоне гэтага году нельга знайсьці хоць-бы некалькі сьветлых плямаў“...

**У краінах капіталізму лютуюць беспрацоўе, нястача і голад працоўных**

У буржуазных краінах, нават дзе вядзецца ўлік беспрацоўных, афіцыяльныя лічбы людзей, якія шукаюць і не знаходзяць работы, вельмі пераўменшаны. Аднак нават паводле вестак буржуазных бюро і соцыял-фашыстаў, колькасьць беспрацоўных перавышае больш

2 дзесяткаў мільёнаў чалавек. Фактычная-ж колькасьць беспрацоўных ці занятых няпоўны рабочы тыдзень дасягае 40—45 млн. чалавек.

У такіх краінах, як Польшча ужо даўно кожны другі рабочы вядзе мізэрнае існаваньне беспрацоўнага. Разарэньне ахапіла і шырокія слаі гарадзкой дробнай буржуазіі, работнікаў разумовае працы, спэцыялістаў, інжынэраў, дактароў, выкладчыкаў, артыстаў, мастакоў.

Нястача, галеча і голад трымаюць у сваіх чэпкіх лапах вялізныя масы працоўных капіталістычных краін. Прайшоўшы на асабістым горкім вопыце „школу" капіталізму, значная частка рабочых пераходзіць у лягер пролетарыяту, які змагаецца, пад сьцягам компартыі, але частка беспрацоўных, ня вытрымаўшы



ДЛЯ ЗАЎВАГ

цяжару нястачы і мучэньняў голаду, не атрымліваючы дапамогі па беспрацоўі ці атрымліваючы такую суму, якая не дае магчымасьці нават жыць галадуючы, канчае самагубствам.

Хроніка газэт усіх буржуазных краін поўна жудасных апавяданьняў аб пакутах і самагубствах беспрацоўных. Нядаўна ў Амэрыцы быў зроблены падлік, які паказаў, што на аснове крызісу ў 1931 г. пакончыла самагубствам 20000 чалавек.

7 ліпеня ТАСС перадаў з Варшавы:

„Пад загалоўкам „Дзень самагубстваў у Лодзі" „Экспрэс Поранны" паведамляе аб 8 выпадках за 30 чэрвеня самагубства пролетараў.

„ 22-гадовая Зофія Карасінская, зволена са службы, памерла прыняўшы атруту.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Мар'яна Вапенская, прыслуга, выкінулася з акна з чацьвертага паверху.

На шосэ каля гораду Згержа кінуўся пад аўтомобіль беспрацоўны 44 гадоў Ян Калбасінскі.

Ірэна Дзітрых, карыстаючыся тым, што ня было гаспадароў, у якіх яна жыла, перарэзала сабе вены галяком.

Пасажыры, якія чакалі цягніка на вакзале Лодзь-фабрычная, былі сьведкамі ўзрушаючай карціны: нейкі хлопчык на вачох мясцовай паліцыі, выхапіўшы рэвольвэр, стрэлам у лоб разьбіў сабе галаву. Самагубца—14-гадовы Станіслаў Вальчак з рабочага прадмесьця Груец"...

Такіх кароткіх заметак дзесяткі і сотні ва ўсіх сталічных і провінцыяльных газэтах.

Аб трагічнай пагібелі сям'і беспрацоўнага тэкстыльшчыка Ласецкага друк паведаміў наступнае: „25-гадовы рабочы Ласецкі ўтрымліваў на свой нязначны заработак жонку, дзяцей і матку. Калі Ласецкага звольнілі з работы, пасьля даўгога бескарыснага шуканьня работы, пасьля цяжкіх дзён пакутваньня ад голаду Ласецкі надумаўся пакончыць з сабой. У прысутнасьці жонкі і маткі ён пачаў піць атруту. Матка пасьпела выхапіць бутэлечку з рук сына і перадала яе нявестцы, каб тая выкінула яе на вуліцу. Але жанчына доўга ня прыходзіла назад. Калі старая і сын выбеглі на вуліцу, было ўжо позна—жонка Ласецкага выпіла атруту. Страціўшы розум, Ласецкі вырваў бутэлечку з рук жонкі і дапіў рэшту. Ласецкі зваліўся мёртвым першы, а жонка, выбегшы на

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вуліцу, пачала шалёны танец, пакуль ня ўпала мёртваю на панэль...

Газэты час-ад-часу паведамляюць аб гандлі людзьмі, аб уваскрошаньні звычаяў сваясаблівага продажу ў рабства. У Польшчы аднойчы зьявілася такая вестка: „За 5000 злотых (прыблізна 1 тыс. руб.) прадам сваю працу на ўсё жыцьцё прыватнай асобе ці прадпрыемству, якое ў дзень контракту выплаціць мне грошы. Магу жаніцца на пакалечанай, старой, пачвары, магу таксама афяраваць сабою для мэдыцынскіх дасьледваньняў, нават самых небясьпечных. Адказ у газэту для самагубцы".

У Польшчы таксама ў Здунскай Волі селянін Петрыкоўскі прывёў на кірмаш для продажу свайго 18-гадовага сына. Пакупнік прапанаваў 50 злотых, г. зн. каля



ДЛЯ ЗАЎВАГ

10 руб. гатоўкаю і 20 цнт. жыта праз два гады, калі сын пакажа сябе за гэты час добрым работнікам. У прыёмах сярэднявякоўя з экономічна адсталай Польшчай спаборнічае „цывілізаваная“, нядаўна „працьвітаўшая“, Амэрыка. У Лос-Анджэлосе нядаўна быў організаваны „добрачынны“ аукцыён, дзе беспрацоўныя сябе прадавалі. На гэтым аукцыёне беспрацоўных ставяць на высокае месца, а прадавец выхваляе якасьці рабочых, пакупнік мацае цягліцы, аглядае беспрацоўнага з усіх бакоў. Хто больш прапануе платы, той уводзіць купленага рабочага. Цэны на гэтым аукцыёне—ад 35-50 цэнтаў за гадзіну работы. Аукцыён прыцягнуў гаспадароў, ласых на танную працу.

У мэтах, відаць, барацьбы з крызысам, у Амэрыцы пачалі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

прымяняць яшчэ адзін новы спосаб зьдзекаў над працоўнымі, у даным выпадку над жанчынамі. Пагражаючы спыненьнем выдачы дапамогі, розныя добрачынныя таварыствы прымушаюць беспрацоўных жанчын згадзіцца на стэрылізацыю, г. зн. опэрацыю абясплодненьня. Спэцыяльныя работнікі унівэрсытэтаў шукаюць афяр, галоўным чынам сярод іншакраінных рабочых і нэграў, бо паводле заявы гэтых работнікаў, „у італьянскіх і нэгрыцянскіх сямей занадта многа дзяцей“.

Такімі вось мэтодамі гаспадары і слугі капіталістычнага сьвету, ахопленыя роспаччу, спрабуюць змагацца з крызісам, спрабуюць заспакоіць бушуючы хаос і анархію буржуазнага сьвету.

Як знайсьці выхад з крызісу? Усе парады лекараў капіталізму, прэтэндэнтаў на ролю збаўцаў

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ад крызісу, аказваюцца бяспомачнымі і не даюць рэзультатаў. У галіне сельскай гаспадаркі, аднак, даўно ўжо прымяняецца спосаб барацьбы з перавытворствам, які, ня гледзячы на крайнія меры, не дае ўсё-ж пажаданых рэзультатаў. Спосаб гэты заключаецца ў зьніштажэньні вялізарных мас сельскагаспадарчай продукцыі. У Бразыліі нядаўна было зьніштожана 7150 тыс. мяшкоў кавы, на чарзе стаіць яшчэ зьніштожыць столькі-ж кавы. У ПАЗШ, у Канадзе, у Галяндыі і інш. краінах зьніштажаюцца вялізныя колькасьці шоўку, чаю, какао, малака, цукру, каучуку. У Германіі штучным спосабам зьніштажаецца шляк доменных печаў, зьмяшчаючы ў сабе многа цэманту.

**„Прышоў канец сьвету“** Амэрыканскі корэспондэнт штодыднёвага



ДЛЯ ЗАЎВАГ

„Манчэсьцер гардыён уіклі“ у канцы чэрвеня піша:

„Эўропеец нават ня можа сабе прадставіць усю глыбіню панікі, якая ахапіла ў апошнія месяцы большасьць амэрыканцаў. Жыхары Амэрыкі на працягу многіх год жывіліся доктрынамі „непарарыўна растучага працьвітаньня“. Усе верылі ў тое, што акцыі будуць вечна паднімацца і ўсе будуць багацець. Ня прыходзіцца дзівіцца, калі многія амэрыканцы пачалі думаць, што прышоў канец сьвету, калі адбылося катастрафічнае падзеньне біржавых цэннасьцяй.

Крізыс зьяўляецца асабліва цяжкім таму, што ў Амэрыцы няма страхаваньня ад беспрацоўя. Беспрацоўныя павінны жыць добрачыннымі падачкамі. Калі шырокія масы страчваюць

ДЛЯ ЗАЎВАГ

работу, то гандляры банкроцяцца і ня могуць выплаціць сваім крэдыторам, і, такім чынам, хваля банкроцтваў падніmaeцца ўсё вышэй.

Сотні тысяч служачых і інтэлігентаў таксама церпяць ад беспрацоўя і паміраюць з голаду. Расказваюць аб людзях, якія жывуць у раскошных кватэрах на Парк Эвеню ў Нью-Ёрку і якія сядзяць бяз хлеба. Яны вядома, ня могуць плаціць за кватэру, але домаўладальнікі не адважваюцца іх выселіць. Гэтыя людзі ствараюць самыя фантастычныя проекты для таго, каб зарабіць грошы, але ўсе гэтыя проекты не даюць ніякіх рэзультатаў. Тысячы студэнтаў прымушаны кінуць вучобу з прычыны поўнай адсутнасьці сродкаў".



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Каб выратавацца з крызісу буржуазныя экономісты даўно ўжо носяцца з ідэяй забароны вынаходак і ўдасканаленьняў. Іменна прамысловы, тэхнічны прогрэс, які, здавалася-б адзіны толькі можа забясьпечыць росквіт матэрыяльных сродкаў і нормальныя ўмовы існаваньня чалавецтва, пры капіталізьме зьяўляецца праклёнам чалавецтва. Нават буржуазныя экономісты вымушаны прызнаць, што панаваньне буржуазіі прывяло да таго, што тэхнічны прогрэс пацягнуў за сабою бязьлітасную і празьмерную эксплёатацыю прыродных рэсурсаў.

Адзін з найбольш відных амэрыканскіх буржуазных пісьменьнікаў, Сьцюарт Чэйз, вядомы па сваёй кнізе „Трагедия расточительства", выступіў цяпер з цэлым радам артыкулаў. У арты-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

куле „Возмездие прогресса“ (чаго варт адзін загаловак!) прапануе „зьмясьціць тэхнічны прогрэс у пасудзіну і выпускаць яго па меры патрэбы“. Але як задушыць тэхнічны прогрэс? Чэйз прапануе: „Аб‘явіць мораторы (адтэрмінаваньне) па вынаходках па меншай меры на дзесятак год і разглядаць усіх вынаходцаў як небясьпечных вар‘ятаў, патрабуючых належнага догляду і належных аб іх клопатаў“.

Артыкулу Чайза—прысуд капіталізму, паказальнік тэй глыбіні роспачы, пэсымізму і бязвыходнасьці, якімі ахоплены нават найбольш далёкабачныя прадстаўнікі буржуазіі. Пры капіталізьме тэхнічны прогрэс падкопвае асновы панаваньня буржуазіі, прыводзіць да тупіку капіталістычных супярэчнасьцяй. Наадварот, задавальненьне растучых жыцьцёвых па-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

трэбнасьцяй мас асноўваецца імена на разьвіцьці ўсіх продукцыйных сіл, калі, як указаў на XVI зьезьдзе партыі т. Сталін, „разьвіцьцё вытворчасьці падпарадкавана ня прынцыпу конкурэнцыі і забесьпячэньня капіталістычных прыбыткаў, а прынцыпу плянавага кіраўніцтва і сыстэматычнага ўздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных“.

Магчымасьць тэхнічнага прогрэсу побач з уздымам жыцьцёвага ўзроўню мас, для ўздыму жыцьцёвага ўзроўню мас забясьпечана толькі ў Савецкім саюзе, у краіне, дзе на зьмену капіталістычнай анархіі прышла арганізаваная сыстэма соцыялістычнай гаспадаркі.

**Магутны рост соцыялізму ў СССР.**

На фоне гіганцкай анархіі, на фоне крызісу, які ўсё больш і больш паглыбляецца, і нястачы

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ў краінах капіталу, горда, як няпрыступная крэпасьць, ярка вылзяляецца Савецкі саюз, які расьце і ўсё больш мацнее. У той час, як там, у капіталістычных дзяржавах, патухаюць домны, мы запальваем новыя домны; у той час, калі там лопаюцца вялізарныя прадпрыемствы, мы пускаем новыя гіганты соцыялістычнай індустрыі; у той час, як там кідаюць на сваволю лёсу шахты і нафтавыя шчыліны, мы пракладаем новыя шахты, будуем новыя нафтазаводы, абсталяваныя найбольш удасканаленымі машынамі.

Няўхільнае ажыцьцяўленьне— пад кіраўніцтвам партыі, на чале з т. Сталіным—пяцігадовага пляну забясьпечыла рабочай клясе СССР тое, што за першыя тры гады пяцігодкі нашая прамысловасьць штогод давала прырост продукцыі ад 20 да 40 проц.

Пушчаны ў ход магутныя прадпрыемствы—Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя заводы; ужо працуюць першыя чатыры домны Магнітагорскага і Кузьнецкага мэталюргічных гігантаў, тут ідзе падрыхтоўка да пуску наступнай чаргі доменных печаў; пушчан Днепрабуд, які даў ужо ток прамысловасьці і комунальнай гаспадарцы Днепрапятроўску; дзейнічаюць ужо Маскоўскі і Ніжагародзкі аўтозаводы; пушчана першая чарга гіганту цяжкога машынабудаваньня Уралмашбуду; працуе Саратаўскі завод комбайнаў; працуе комбінат заводаў Чалябінску; пушчаны першыя чаргі Бярэзьнікаўскага, Неўскага і Васкрасенскага хімкомбінатаў; пушчаны завод „Фрэзер“ і завод шарыкападшыпнікаў; у сярэдзіне ліпеня пушчан завод „Калибр“, які будзе

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вырабляць контрольна-вымяральныя інструманты, што ўвозіліся намі да гэтага часу з-за граніцы.

18 чэрвеня ў газ. „За індустрыялізацыю“ быў апублікован сьпіс новых заводаў, электрастанцый, шахт, пушчаных у першым паўгодзьдзі чацьвертага, завяршаючага году пяцігодкі. Толькі кароткі пералік пушчаных прадпрыемстваў, якія даюць ужо краіне тысячы і дзесяткі тысяч тон вугалю, коксу, чыгуну, цэманту, хімікалій, мільярды кілёват-гадзін электраэнэргіі, заняў ні больш, ні менш як паўстаронкі газэты.

Як заявіў на III Усеукраінскай конфэрэнцыі т. Кагановіч, агуловая продукцыя СССР за пэрыод часу з 1928 па 1932 г. узрасла з 14,7 млрд. руб. да 37 млрд. р., г. зн. у два з паловай разы. Надзвычайна бурны рост



ДЛЯ ЗАЎВАГ

нашай індустрыі павялічыў кадры пролетарыяту нашай краіны толькі за адзін апошні год на 2 млн. чалавек, і рабочая армія СССР к пачатку 1932 г. дасягнула 18,5 млн. чалавек. У СССР ня толькі ліквідавана беспрацоўе, але ў нас адчуваецца цяпер вострыя недахоп рабочых і да нас з краін капіталізму прыбываюць для работы вялізныя атрады рабочых і спэцыялістаў. Мы заканчваем увядзеньне 7-гадзіннага рабочага дня, расьце зарплата, хутка таксама павышаюцца затраты на соцыяльнае страхаваньне і ахову здароў'я, на палепшаньне культурна-бытавых і комунальных умоў жыцьця рабочых, колгасьнікаў, усіх працоўных. Толькі за адзін 1931 г. прырост зарплаты па СССР склаў 16 проц., а па паасобных галінах прамысловасьці падняўся яшчэ вышэй.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Магутны крок наперад зрабіла і наша Савецкая Беларусь па шляху індустрыялізацыі. Некалькі фактаў. У 1922—1923 г г. агуловая продукцыя ўсёй прамысловасьці БССР складала 29 млн. руб. пры 9705 рабочых, у 1932 г. плян прадугледжвае выпрацоўку продукцыі 1093500 тыс. руб. пры 109900 чалавек рабочых, служачых і інжынэрна-тэхнічных работнікаў. У Савецкай Беларусі пабудаваны і ўжо дзейнічаюць новыя фабрыкі і заводы першай пяцігодкі: Гомсельмаш, Бабруйскі і Гомельскі лесакомбінаты, запалкавыя фабрыкі „Х Акцябр" і „Пролетарская перамога", швэйныя гіганты „Сьцяг індустрыялізацыі" ў Віцебску, „Акцябр" у Менску, імя Дзяржынскага ў Бабруйску, імя Валадарскага ў Магілеве, вялікі скураны завод імя Сталіна ў Магілеве, элеватор

і маргарынавы завод у Гомелі, панчошна-трыкатажны комбінат у Віцебску, Асінаўская дзяржаўная электрастанцыя імя Сталіна, фабрыка штучнага шоўку ў Магілеве, мясакомбінат і ільнакомбінат у Воршы, магутныя торфазаводы і інш. прадпрыемствы.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Колектывізацыя сельскай гаспадаркі.

Няўхільнае ажыцяўленьне гэнэральнай лініі нашай партыі, барацьба з правым ухілам, як з галоўнай небясьпекаю на даным этапе, з „левымі" загібшчыкамі і прымірэнцтвам да іх на аснове высокіх тэмпаў індустрыялізацыі, стварылі глебу для магутнага разьвіцьця колгасаў і саўгасаў. Многамільённыя масы беднякоў і сераднякоў рашуча сталі на шлях колектывізацыі. Па СССР 61 проц. сялянскіх гаспадарак і 80,4 проц. усіх сялянскіх за-

сеўных плошчаў аб'яднаны ўжо колгасам.

Вынік пасеўнай кампаніі г. г.,—заявіў на III Усеукраінскай партконфэрэнцыі т. Молатаў,—сьведчыць аб вялізарнай перамозе колгасаў і саўгасаў СССР. У Савецкім саюзе звыш $^4/_5$ плошчы яравых пасеваў засеяна саўгасамі і колгасамі. Такое становішча—гаворыць т. Молатаў,—мы яшчэ ніколі ня мелі. СССР канчаткова замацаваўся на социялістычных шляхох разьвіцця сельскай гаспадаркі. Машынізацыя сельскай гаспадаркі хутка пасунулася наперад. Досыць указаць на тое, што 45 проц. усіх засеўных плошчаў на Украіне ўжо абслугавана МТС. У СССР, па папярэдніх падліках, атрымаем у гэтым годзе на 500 млн. пудоў больш збожжа, чым у мінулым годзе.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

**Рост соцыялістычнай культуры** Разам, нага ў нагу, з індустрыялізацыяй і колектывізацыяй ідзе рост соцыялістычнай культуры працоўных усіх нацыянальнасьцяй Савецкага саюзу. У той час, калі ў капіталістычных краінах закрываюцца школы і унівэрсытэты, у той час, калі там пропагандуецца лёзунг абмежаваньня навучаньня, у той час, калі ў Заходняй Беларусі польскія фашысты ліквідуюць апошнія рэшткі беларускай культуры і беларускіх школ, а дзеячы „Таварыства беларускай школы“ заганяюцца ў турмы,—у СССР і, у прыватнасьці, у БССР соцыялістычная культура, навука і мастацтва пышна расьцьвітаюць. Адкрываюцца ўсё новыя і новыя школы, унівэрсытэты, вячэрнія курсы для рабочых, тэатры, клюбы і т. д. У СССР цяпер

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кожны трэці чалавек вучыцца растуць кадры тэхнічнай і навуковай інтэлігенцыі з людзей рабочай клясы. БССР — адна з першых у Савецкім саюзе рэспублік, якая к 1 мая г г. стала ў асноўным рэспублікай суцэльнай пісьменнасьці.

Гэтых посьпехаў краіна дыктатуры пролетарыяту дабілася на аснове рашучага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі, на аснове бязьлітаснага выкрыцьця вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, на аснове выкрыцьця шовіністаў усіх нацыянальнасьцяй.

**Дзьве соцыяльныя сыстэмы**

Побач жывуць дзьве соцыяльныя сыстэмы — СССР і капіталістычны сьвет. Але ў той час як СССР нязьменна ў свім разьвіцьці падымаецца ўверх, ка-

піталістычная сыстэма па ўсіх напрамках—і па лініі прамысловасьці і па лініі сельскай гаспадаркі, і па лініі фінансаў, і па лініі культуры, і па лініі забесьпячаньня працоўных,— катастрофічна коціцца ўніз.

І гэта сьцісла, але ярка выказаў англійскі пісьменьнік Бэрнард Шоў, які наведаў улетку мінулага году СССР.

Савецкі саюз,—заявіў ён,— краіна надзеі і працьвітаньня ў процівагу капіталістычнаму сьвету, які стаў сьветам роспачы і бязвыходнай нястачы.

Рабочая кляса СССР, пад кіраўніцтвам загартаванай у жорсткіх клясавых баёх партыі Леніна, упэўнена глядзіць наперад, пасьпяхова завяршае пабудаваньне першай пяцігодкі ў чатыры гады і рыхтуецца да ажыцьцяўленьня пляну другога

ДЛЯ ЗАЎВАГ

пяцігодзьдзя, пляну пабудаваньня бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

**Падрыхтоўка нападу на СССР.** Посьпехі Савецкага саюзу, паказваючыя на справе переважнасьці соцыялістычнай сыстэмы, аказваюць вялізарны рэволюцыянізуючы ўплыў на пролетарскія масы і сялянства буржуазных краін і колёній, натхняюць іх на барацьбу за зьвяржэньне капіталізму.

У пошуках сродкаў ліквідацыі гэтага ўплыву, у пошуках спосабаў капіталістычнага выхаду з крызісу буржуазія ліхаманкава рыхтуецца да вайны супроць СССР.

Капіталістычны друк буржуазных краін адкрыта заклікае да вайны. Адзін амэрыканскі „вучоны“ нават выказаў такую мысьль, што вайна, бачыце, „урэгулюе“ лішкі (колькасьць)

ДЛЯ ЗАЎВАГ

насельніцтва, што добрая вайна па сваіх „добрадзейных“ выніках можа быць параўнана толькі з чумой. Калі белагвардзеец-фабрыкант Рабушынскі некалькі год таму назад даказваў, што антысавецкая вайна—выгоднае прадпрыемства,—ён гэтым выказаў агульную думку капіталістычных тузоў усіх краін. Адзін французскі прадпрыемца, напрыклад, нагла заявіў, што „кожная краіна атрымала-б толькі палягчэньне ад вайны яшчэ больш даўгой і крывавай, чым апошнія“.

У гэтым гнюсным хоры капіталістычных забойцаў досыць выразна гучыць голас пілсудчыны. Польскія фашысты і іх газэткі выказваюцца нават больш адкрыта, больш дакладна, балбатліва выяўляючы, што гутарка ідзе аб СССР. Пропагандуючы вацяганую авантурыстычную ідэю

ДЛЯ ЗАЎВАГ

аб „Польшчы ад мора да мора“, аб адстанаўленьні польскіх граніц 1772 г., зн. аб захопе зямель Савецкай Украіны і Савецкай Беларусі, газэта „Ілюстраваны кур'ер цодзенны“ піша, што „ў самой Расіі няма такой сілы, якая-б магла разьбіць пляны пяцігодкі. Плян бальшавікоў можа разьбіць толькі іншакраінная інтэрвэнцыя, арганізаваная коаліцыяй дзяржаў“.

Гэту-ж самую бандыцкую песьню паўтараюць і японскія мілітарысты. Працоўным усяго сьвету добра вядомы пляны японскіх ваенных кругоў адносна нападу на СССР. Гэтыя пляны былі выкрыты нашым друкам. У гэтых плянах, як вядома, гутарка ідзе аб захопе савецкага Далёкага Ўсходу і Прымор'я, „Заходнія дзяржавы якія мяжуюцца з СССР (Польшча, Румынія) маюць магчымасьць за-

раз выступіць узгоднена з намі",—гаворыць адзін даклад японскіх мілітарыстаў.

У другім дакуманце гаворыцца: Япона-савецкая вайна, прымаючы пад увагу становішча ўзброеных сіл СССР і становішча ў іншых дзяржавах, павінна быць праведзена як мага хутчэй. Мы павінны асазнаць тое, што па меры праходжаньня часу абстаноўка робіцца ўсё больш спрыяючай для іх. Я лічу неабходным, каб імпэратарскі ўрад павёў-бы політыку з разьлікам як мага хутчэй пачаць вайну з СССР.

Зразумела, нам патрэбна будзе ажыцьцявіць прасоўваньне да Байкальскага возера. Што-ж датычыць далейшага наступу на захад, то гэта павінна быць вырашана ў залежнасьці ад агульнай абстаноўкі, якая створыцца



ДЛЯ ЗАЎВАГ

к таму часу, і асабліва ў залежнасьці ад становішча дзяржаў, якія выступяць з захаду. У тым выпадку, калі мы спынімся на Забайкальскай чыгуначнай лініі, Японія павінна будзе ўключыць окупіраваны Далёка-ўсходні край поўнасьцю ў склад уладаньняў імпэрыі. На гэтай тэрыторыі нашы войскі павінны разьмясьціцца ў парадку ваенных пасяленьняў, г. зн. на доўгія часы".

Аб гэтых плянах падрабязна пісалася ў нашым друку ўвесну г. г., а нядаўна ў чэрвені і ў пачатку ліпеня, у японскай газэце „Ніхон" провакатары вайны— „экспэрт па рускіх справах" Камаіцы і Огава Умпэі—выступілі з яшчэ больш абшырнымі плянамі захопу савецкіх тэрыторый Сібіры: „Некалькі год таму назад,— заяўляе Умпэі, — неаднократна папераджалі япон-

цаў, што іх абавязак заключаецца ў заваяваньні абшырнай тэрыторыі, якая зьяўляецца прадаўжэньнем Корэі, і ўпіонэрстве ў справе культурнага будаўніцтва на Амуры... Слухаючы ваш заклік, пан Камаіцы, мы адчуваем надзвычайную прыкрасьць. Замест таго, каб прапаноўваць у дыплёматычным парадку аказаць дапамогу ў справе ўстанаўленьня самастойнасьці Сібіры вам трэба было-б падкрэсьліць неабходнасьць захопу ўсходняй часткі Сібіры шляхам абвяшчэньня вайны СССР, выходзячы з ваеннага саюзу Японіі і Манчжурыі, які няўнікнёна будзе заключан пасьля прызнаньня Японіяй апошняй. Апрача

таго, вы ня ўказвалі на тую акалічнасьць, што японцам неабходна быць гатовымі да аказаньня ўзмоцненай дапамогі белагвардзейцам".

Ліхаманкавае ўзбраеньне фашысцкай Польшчы

Уся гэтая моральная і матэрыяльная падрыхтоўка вайны (вядома, што ўсе капіталістычныя краіны Эўропы і Амэрыкі са скуры лезуць, каб забясьпечыць Японію, Польшчу Румынію і інш. суседзяў СССР зброяй, бояпрыпасамі і хімічнымі сродкамі вядзеньня вайны) асабліва старанна фінансуецца францускімі імпэрыялістамі Генэралы і агенты ваенных заводаў Францыі—арганізатары будучай антысавецкай вайны—частыя госьці ў Польшчы, Румыніі, Чэха-Славакіі і інш. дзяржавах Усходняй Эўропы.

Яшчэ ў 1924 г., калі цяперашні

прэм'ер-міністр Францыі Эрыё быў на чале ўлады, ён, з ухвалы Французскіх і польскіх „социялістаў" прадаставіў Польшчы пазыку ў 400 млн. франкаў. Гэтая пазыка поўнасьцю была выкарыстана на закупку зброі і на пабудаваньне ваенных суднаў. Але гэтая пазыка—толькі „дробязь" у параўнаньні з тэй дапамогаю, якую французскі генэральны штаб аказвае белапанскай Польшчы. З Францыі, з портаў Шэрбургу і Тулону, дзе створаны спэцыяльныя польскія ваенна-морскія базы, рэгулярна вывозяцца ў Польшчу ваенныя прыпасы. У Тулонскім порце, пад кіраўніцтвам французскіх офіцэраў, у спэцыяльнай школе рыхтуюцца кадры маракоў для польскіх падводных лодак. Французскія імпэрыялісты ў самай Польшчы ўвесь час будуюць вялізныя ваенныя заводы і стра-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

тэгічныя чыгункі. Ваенная прамысловасьць—адзіная ў Польшчы якая працуе з поўнаю нагрузкаю і ня ведае крызісу.

Каб атрымаць хаця-б некаторае ўяўленьне аб ліхаманкавых узбраеньнях Польшчы, досыць прывесьці вытрымкі з германскай газэты „Дэйчэ тагесцэйтунг“. Паводле падлікаў гэтай газэты, з 1923 г. па 1932 г. у Польшчы пабудавана 33 новых ваенных заводы; 4 артылерыйскіх, 2—узрыўчатых матэрый, 2—збройных, 4—амуніцыйных, 3—авіяцыйных і 1—танкавы. Прыстасаваны для вырабу ваенных матэрыялаў, яшчэ 100 заводаў. Кожны месяц ваенныя заводы выпускаюць 20 млн. кулямётных і ружэйных патронаў, 60 тыс. артылерыйскіх знарадаў, 500 кулямётаў, 20 гармат 40 ваенных самалётаў. У ваенны час гэтая „выпрацоўка“ можа

ДЛЯ ЗАЎВАГ

быць павялічана ў пяць разоў. Кошт „продукцыі“ польскіх ваенных заводаў дасягае 60 млн. доляраў у год. Але пілсудчыкі гэтым не абмяжоўваюцца. Яны яшчэ ўвозяць вялізарныя колькасьці ваеннага знараджэньня: танкі, зэнітныя гарматы і інш. з Францыі, Чэха-Славакіі і Бельгіі.

Няма чаго і гаварыць, што расходы Польшчы на ўзбраеньні ўвесь час надзвычайна растуць. На 1931-32 г. з усяго дзяржаўнага бюджэту Польшчы ў 2886 млн. злотых ваеннаму міністэрству выдзелена 836 млн. злотых, г. зн. адна трэць усяго бюджэту. Але гэтая цыфра—далёка ня поўная, бо па кожным міністэрстве выдзелена рубрыка расходаў на чыста ваенныя мэты. Так, 25 млн. злотых выдзелена міністэрствам фінансаў на ўтрыманьне асобай „пагранічнай варты“ заходніх



ДЛЯ ЗАЎВАГ

граніц Польшчы, 127 млн. злотых выдзяліла міністэрства ўнутраных спраў на ўтрыманьне паліцыі плюс 6 млн. злотых на ўтрыманьне „корпусу пагранічнай аховы“. Вялізарныя сродкі затрачваюцца на ўтрыманьне фашысцкага саюзу „стральцоў“, жаночага фашысцкага саюзу стралкоў, белагвардзейскіх банд Булак-Балаховіча, петлюраўскіх, грузінскіх, азэрбайджанскіх і інш. белаэміграцкіх банд, прыгрэтых у фашысцкай Польшчы.

Але нават калі ўзяць афіцыяльныя цыфры ваеннага бюджэту, то і яны паказваюць наступны рост:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1921-22 г. | —44 | млн. | доляраў |
| 1923-24 „ | —74 | „ | „ |
| 1928-29 „ | —86 | „ | „ |
| 1929-30 „ | —91 | „ | „ |
| 1931-32 „ | —97 | „ | „ |

Але каб так ліхаманкава затрачваць сродкі на ўзбраеньне,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

пілсудчыкі, адначасна са зьверскім выкалачваньнем падаткаў з працоўных, рэзка скарачаюць усе расходы на культурныя і сацыяльныя мэты. Вядома, што ў Польшчы канчаткова ліквідуюцца цяпер рэшткі соцыяльнага законадаўства, заваяванага рабочымі ў пачатку стварэньня Польшчы, калі буржуазія, баючыся пролетарскага перавароту, пайшла на ўступкі. На гэты год у 20 разоў (гэта не памылка друку—у дваццаць разоў) зьменшаны расходы на будаўніцтва народных школ. Аднак, ваеншчына і гэтым не абмяжоўваецца,—яна ў асобе генэрала Галіца заяўляе:

„Становішча Польшчы і цяперашняя палітычная сытуацыя патрабуюць павялічэньня ваеннага бюджэту ўдвая“.

Польскі ваенны бюджэт паказ-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вае, як ліхаманкава рыхтуецца пілсудчына да новай антысавецкай вайны.

Падрыхтоўка глебы для нападу на СССР

Адначасова з актыўнай падрыхтоўкай нападу на СССР пілсудчыкі разьвіваюць ліхаманкавую дзейнасьць і ў іншых, сумежных напрамках. Сярод войск распаўсюджваюцца спэцыяльныя салдацкія і унтэраўскія газэткі, перапоўненыя самай бессаромнай хлусьнёю, „жахамі“, якія творацца ў Савецкім саюзе. Каб адбіць ахвоту ў салдат уцякаць у СССР, каб процідзейнічаць рэвалюцыйнаму ўплыву, які клясавая барацьба рабочых і сялян Польшчы аказвае на рабочых і сялян, адзетых у салдацкія шынэлі, польскія пісакі ілгуць бясконца, не саромячыся паведамляць аб паўстаньнях рабочых у Бранску, у Івана-Вазьнясенску

і інш. гарадох. Бранскія і Іва наў-скія рабочыя нават не падазраюць, што польскія пісакі прыпісалі ім „паўстаньне“...

У Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне польскі фашызм старанна насаджвае асадніцтва— колёнізатараў, якія вярбуюцца з быўшых унтэр-афіцэраў, жандараў і інш. добранадзейных элемэнтаў. Асадцікі нярэдка разьмяшчаюцца на землях выселеных „нядобранадзейных“ беларускіх сялян.

Падрыхтоўваючы глебу для ваеннага нападу, польскія фашысты жорстка распраўляюцца з беларускімі рабочымі і сялянамі. Працоўным усяго сьвету вядомы крывавыя карныя экспэдыцыі польскай ваеншчыны і жандармэрыі, што носяць назву „пацыфікацыі“; гучным рэхам на ўвесь сьвет раздаецца скрып



ДЛЯ ЗАЎВАГ

цэлага лесу шыбеніц, неперарыўна дзейнічаючых па прысудах ваенна-палявых судоў. Кожны западазроны ў комунізьме, у сымпатыі да СССР падпадае ўтончаным катаваньням, перавышаючымі па сваіх зьверствах сярэднявяковыя пыткі. У польскіх турмах мучацца 10 тыс. політычных зьняволеных, 10 тыс. палонных адчайнага белага тэрору. Польскія турмы перапоўнены сялянамі за нявыплату падаткаў, за процідзеяньне, што яны аказваюць поліцэйшчыне, якая гвалтоўна забірае апошняе дабро, разарае дашчэнту і так жабрацкую гаспадарку сялян.

На другім канцы імпэрыялістычнага лягеру, на Далёкім Усходзе, ня спыняюцца спробы ўцягнуць нас у вайну. Працоўным СССР і ўсяго сьвету добра вядомы провокацыйныя вымыслы

ДЛЯ ЗАЎВАГ

японскіх мілітарыстаў аб тым, што Савецкі саюз нібыта забясьпечвае кітайскіх генэралаў зброяй; аб тым, што Савецкі саюз нібы та наладзіў узрывы і крушэньні японскіх окупацыйных эшалёнаў у Манчжурыі. Падкормліваючы рускіх белагвардзейцаў, формуючы з іх новыя ўзброеныя атрады, японскія мілітарысты нядаўна зрабілі яшчэ дзьве провокацыйныя вылазкі. Першая—гэта тое, што ў харбінскай таможні, якая абслугоўваецца англійскімі паддданымі, паводле заявы японскіх агентаў нібыта знойдзена ў вялікай колькасьці комуністычная літаратура,—за гэта, вядома, павінен адказваць СССР. Другая—гэта захоп прыстаняй КУЧ на рацэ Сунгары, у Харбіне. Захоп прыстаняй праведзен пад непасрэднім кіраўніцтвам японскіх прадстаўнікоў і разьлічан, вядо-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ма, на абвастрэньне адносін з намі.

Падрыхтоўваючы глебу для нападу на СССР, японскія імпэрыялісты жорстка распраўляюцца з рабочай клясаю сваёй краіны, жорстка прасьледуюць комуністаў. Спэцыяльна для барацьбы з рэволюцыйным рухам абвешчан закон аб „небясьпечных мысьлях", які карае сьмерцю. Японскія імпэрыялісты ствараюць масавыя процэсы комуністаў (процэс „200"), люта падаўляюць рэволюцыйныя ўспышкі японскіх сялян, нястача і галеча якіх увайшлі нават у пагаворку.

Рабочая кляса, колгасьнікі, усе працоўныя СССР добра помняць усе злачынствы і провокацыі, якія організуюцца польскімі, румынскімі, японскімі імпэрыялістамі і іх агентамі—рускімі белагвардзейцамі. Але на гэтыя про-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вокацыі працоўныя Савецкага саюзу не паддадуцца. Апіраючыся на магутнае падтрыманьне міжнароднага пролетарыяту, савецкі урад ужо выкрыў многа разоў спробы выклікаць пажар вайны і наўперад бязьлітасна будзе выводзіць на чыстую ваду імпэрыялістычных забойцаў, „ня даўшы ворагам уцягнуць сябе ў конфлікты, ня гледзячы на рад провокацыйных актаў і авантурыстычныя наскокі падпальшчыкаў вайны“ (Сталін).

Мы ведаем, што гэтай вясною сусьветныя імпэрыялісты рыхталіся пачаць ваенную атаку супроць СССР. Гэтая атака была сарвана героічнай барацьбой кітайскіх салдат у Шанхаі, якая паказала ўсяму сьвету, як невялікі атрад дрэнна ўзброеных, але натхнёных нацыянальна-рэволюцыйнай ідэяй, салдат можа

ДЛЯ ЗАЎВАГ

даць адпор да самых зубоў узброенай арміі імпэрыялістаў, была сарвана героічнай барацьбой рэволюцыйных рабочых і салдат самой Японіі. Гэтая атака была сарвана ростам рэволюцыйнай актыўнасьці пролетарыяту краін Захаду, у прыватнасьці Польшчы.

Імпэрыялістычныя супярэчнасьці, боязьнь распачаць вайну супроць СССР магутная згуртаванасьць рабочых і ўсіх працоўных вакол ленінскай партыі— вось тыя фактары, якія адвялі пагрозу вайны гэтай вясною.

Але небясьпека вайны не аслабела. Чым больш паглыбляецца сусьветны крызіс, чым вышэй паднімаецца хваля рэволюцыйнага руху,—тым яшчэ больш ліхаманкава рыхтуюцца імпэрыялісты Францыі, Польшчы, Японіі, Румыніі і інш. краін даваеннай



ДЛЯ ЗАЎВАГ

атакі супроць СССР. **Быць на варце**—такая вось задача. Гэта тым больш неабходна сказаць **сёньня**, калі імпэрыялістычныя салаўі расьпяваюць „раззбройвальныя“ трэлі.

ДЛЯ ЗАУВАГ

Яшчэ сёньня, 18 год пасьля абвяшчэньня сусьветнай вайны, якая каштавала чалавецтву дзесяткі мільёнаў забітых і параненых, ня кажучы аб вялізарных матэрыяльных цэннасьцях, ні адна буржуазная дзяржава, не рызыкуючы быць зьмеценай гневам рэволюцыйных мас, ня можа **адкрыта** выступіць у ролі падпальшчыкаў вайны, тым больш вайны супроць Савецкага саюзу, ня можа адкрыта абараняць сваю політыку.

Вось чаму буржуазныя ўрады і іх генштабы ў галіне ўзбраеньняў і стварэньня ваенных саюзаў дзейнічаюць надзвычайна сакрэт-

на, за дымавой заслонаю размоў аб „раззбраеньні“.

Адным з найбольш яркіх праяўленьняў гэтага абману зьяўляюцца розныя конфэрэнцыі і нарады, якія час-ад-часу склікаюцца Лігай нацый. Вось ужо пяць год бязрэзультатна „працуе“ комісія і конфэрэнцыя па раззбраеньні. У Жэнэве, дзе пераважна адбываюцца ўсе конфэрэнцыі і нарады імпэрыялістаў, „вялікія“ дзяржавы — Францыя Англія, Амэрыка, Японія, Італія і інш.—бесканечна вядуць дыплёматычную ігру, спэкулююць на найбольш слабых і ўражальных мясцох сваіх праціўнікаў. Чаго варты ўсе размовы аб раззбраеньні ў Жэнэве і з трыбун буржуазных парлямантаў—паказвае непарарыўны рост узбраеньняў ва ўсіх капіталістычных краінах. Паводле даных Лігі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

нацый, узбраеньне Францыі, Англіі, Амэрыкі, Італіі і Японіі ацэньваліся:

У 1914 г.—1153 млн. доляраў
„ 1924 г.—1745 „ „
„ 1931 г.—2373 „ „

Малыя дзяржавы, суседзі СССР, таксама не адстаюць ва ўзбраеньнях. Так, узбраеньні Польшчы, Румыніі, Фінляндыі, Эстоніі і Латвіі складалі:

У 1924 г.—162 млн. доляраў
„ 1931 г.— 205 „ „

На Жэнэўскай конфэрэнцыі па раззбраеньні на працягу цэлага раду год вядзецца дыскусія аб мэтодах раззбраеньня, працуюць камісіі экспэртаў, вывучаюцца і ўзгадняюцца прапановы, але справа раззбраеньня ад гэтага не пасунулася наперад ні на адну ёту.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

СССР—адзіная краіна, якая вядзе політыку міру.



Адзінай краінай, якая пасьлядоўна вядзе політыку міру, якая выступіла з яснымі і конкрэтнымі прапановамі зьнішчажэньня прылад зьнішчэньня чалавецтва, а затым, калі гэты проект у Жэнэве быў адкінут, з прапановаю аб скарачэньні ўзбраеньняў— зьяўляецца Савецкі саюз. Наш урад паслаў на Жэнэўскую конфэрэнцыю сваю дэлегацыю зусім не таму, што меў якую-небудзь надзею на тое, што капіталісты сапраўды жадаюць раззброіцца. Наш урад паслаў дэлегацыю на конфэрэнцыю для таго, каб перад працоўнымі ўсяго сьвету выявіць сутнасьць хлусьлівых размоў капіталістаў аб раззбраеньні. Мы добра помнім словы Леніна аб вайне:

„Вайна неразрыўна зьвязана з капіталізмам. Зьніштожыць вайну

ДЛЯ ЗАЎВАГ

можна толькі шляхам зьвяржэньня клясы капіталістаў-эксплёататараў, устанаўленьня дыктатуры пролетарыяту, будаўніцтва соцыялізму. Усякія іншыя тэорыі і прапановы, якімі-б „рэальнымі“ яны не здаваліся, зьяўляюцца абманам з мэтай прадоўжыць сыстэму эксплёатацыі і вайны“.

Наша дэлегацыя ў Жэнэве пасьлядоўна змагаецца за мір, настойліва ставіць пытаньне аб раззбраеньні, у прыватнасьці аб скарачэньні ўзбраеньняў. Толькі гэтымі днямі тэлеграф прынёс паведамленьне з Жэнэвы аб тым, што савецкая дэлегацыя, змагаючыся супроць саботажу раззбраеньня, у тым ліку і супроць саботажу амэрыканскай буржуазіі, якая крывадушна выступае з прапановаю частковага скарачэньня тых відаў узброеньняў, якія ёсьць у вялікай колькасьці ў яе... пра-

ціўнікаў—Англіі, часткова Францыі, высунула наступныя патрабаваньні: колькаснае скарачэньне ўсіх відаў узброеньняў на першым этапе ня менш, як на 33 $^{3}/_{4}$ проц. з выключэньнем для малых краін і краін, разброеных у выніку іншых міжнародных дагавароў;

поўнае скасаваньне ўсёй бамбандыровачнай авіяцыі;

скасаваньне танкаў усіх катэгорый;

абмежаваньне сухаземнай рухомай артылерыі гарматамі калібрам ня вышэй 100 *мм* і абмежаваньне калібру морскай артылерыі ў адпаведнасьці з абмежаваньнем калібру берагавой артылерыі;

даручэньне прэзыдыуму конфэрэнцыі на працягу часу паміж дзьвюма сэсіямі конфэрэнцыі падрыхтаваць практычныя пра-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

пановы, якія датычаць ужываньня прынцыпу ўсеагульнага скарачэньня морскіх узбраеньняў на 33 $^{3}/_{4}$ проц. і скарачэньня паасобных катэгорый суднаў.

Гэтыя савецкія патрабаваньні зрабілі вялізарнае ўражаньне ў кругах конфэрэнцыі не таму, што яны ў чым-небудзь мяняюць прынцыповую позыцыю савецкай дэлегацыі, якая ў сапраўднасьці астаецца зусім нязьменнай, а таму, што яны з вялікай сілай выкрываюць спробу адцягнуць якое-б там ні было рашэньне па пытаньнях раззбраеньня. Савецкія патрабаваньні выкрываюць супольную паруку ўсіх імпэрыялістычных дзяржаў супроць якога-б там ні было скарачэньня ўзбраеньняў, выкрываюць у прыватнасьці двудушнасьць амэрыканскай дэлегацыі, якая ўносіць на публічным паседжаньні генэ-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ральнай комісіі далёкаідучыя дэмонстрацыйныя прапановы Гувэра і якая ў той-жа самы час за кулісамі гатова дамовіцца аб выпрацоўцы рашэньняў, маскіруючых сапраўдныя адносіны дзяржаў і да прапановы Гувэра і да якога-б там ня было скарачэньня ўзбраеньняў.

Уся гісторыя „работы“ жэнэўскіх буржуазных „міратворцаў“— гэта гісторыя рашучага адстойваньня сваіх узбраеньняў. Плян Гувэра, які нібыта паднімае пытаньне аб ліквідацыі ўзбраеньняў на $^1/_3$, складзен з такім разьлікам, каб, не закранаючы сваіх ваенных сіл, раззброіць будучых праціўнікаў Амэрыкі ў вайне, у першую чаргу Англію і Японію. Англія выступіла са сваім контрпроектам „скарачэньня“ ўзбраеньняў. Але вастрыё англійскай прапановы разьлічана на тое, каб,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

забясьпечыўшы за сабой захаваньне баявых сіл, абмежаваць і прыпыніць морскія ўзбраеньні Амэрыкі і зьвесьці да нуля магутнасьць французскага падводнага і паветранага флёту, які, у першую чаргу, пагражае Англіі,

У той час, калі ў Жэнэве буржуазныя салаў і кляліся ў сваёй вернасьці прынцыпам раззбраеньня, ва ўсіх частках земнага шара ўсё больш яскрава разгараліся і разгараюцца асяродкі новай сусьветнай і антысавецкай вайны. Адно нямецкае інформацыйнае агенцтва „Прэстгеографі" ў пачатку гэтага году разаслала карту з азначэньнем важнейшых асяродкаў вайны.

Вядома, першае месца на гэтай карце па праву адводзіцца вайне ў Манчжурыі, якую распачалі імпэрыялісты Японіі. Далей на гэтай карце паказана бойка па-

між кітайскімі генэраламі, вайна паміж нанкінскім урадам і кітайскай Чырвонай арміяй, паўстаньне туземцаў супроць францускага імпэрыялізму ў Інда-Кітаі, паўстаньні туземцаў супроць панаваньня англічан у Бірме, у заходняй частцы Інда-Кітаю, у Індыі і на востраве Кіпры ў Міжземным моры. Далей ідуць ваенныя экспэдыцыі францускіх войск супроць непакорных плямёнаў Мароко, ваенныя окупацыйныя атрады ПАЗШ супроць вызваленчага руху ў Нікарагуа, на Кубе і ў Таіці. У Эўропе асяродак вайны існуе ў спрэчцы Літвы і Польшчы з прычыны захопу Вільні.

Гэты сьпіс можна было-б яшчэ дапоўніць сур'ёзным асяродкам вайны, які ўзьнік у амэрыканскай колёніі на Філіпінах, куды накіраваў свае колёнізацыйныя групы японскі імпэрыялізм.

Здрадніцкая роля II Інтэрнацыяналу і яго партый

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Ня гледзячы на непасрэдную небясьпеку вайны, соцыял-фашысцкі II Інтэрнацыянал і яго партыі, гатовыя на любое здрадніцтва інтарэсаў рабочае клясы, абы захаваць капіталістычны лад, спрабуюць адмаўляць узрастаючую грозную небясьпеку, каб усыпіць дбайнасьць працоўных. Соцыял-фашысты з пенай на вуснах даказваюць, што капіталістычная Ліга нацый—„надзейны струмант міру“, што іменна пад кіраўніцтвам Лігі чалавецтва назаўсёды пазбавіцца жахаў войн.

Факты жорстка выкрываюць соцыял-фашыстаў, гэтых верных пасобнікаў капіталізму ў падрыхтоўцы новай антысавецкай вайны, гэтых агітатараў і арганізатараў вайны супроць краіны саветаў. Успомнім хоць-бы заклікі

Карла Кауцкага аб інтэрвэнцыі СССР, успомнім хоць-бы тую ролю, якую адыгрывалі і адыгрываюць рускія меншавікі ў падрыхтоўцы антысавецкай вайны. Процэс меншавікоў-інтэрвэнтаў у Маскве з вычарпальнаю паўнатою паказаў, што яны першыя гатовы кінуць запалку ў бочку з порахам.

Успомнім таксама ролю цяперашняга ваеннага міністра Францыі, Поля Бонкура, які толькі нядаўна быў адным з правадыроў француская соцыялістычнай партыі. „Соцыяліст“ Поль Бонкур мае вялікі стаж організатара нападу на СССР. Гэта ён на ўвесь сьвет выхваляў белапанскія банды Польшчы як „апору цывілізацыі“ на рубяжы з Савецкім саюзам; гэта ён у 1927 г. у францускім парляманце правёў закон аб усеагульнай мілітарыза-

цыі насельніцтва Францыі і ўсіх організацый на выпадак вайны. Па яго ініцыятыве, пад страхам цяжкіх кар, усё насельніцтва Францыі, уключаючы жанчын абавязана будзе, нароўні з прызванымі салдатамі, выконваць загады ваеннага міністра. Няма чаго і гаварыць аб тым, што ўсякія забастоўкі, асабліва забастоўкі протэсту супроць вайны, забаронены, бо нават профсаюзы і коопэрацыя пастаўлены гэтым законам у падпарадкаваньне ваеншчыне. Закон францускага парляманту кажа: „У часе вайны ўсе законна, існуючыя організацыі павінны прыняць удзел у абароне краіны“.

Бонкур дзейнічаў як прадстаўнік францускай соцыялістычнай партыі, бо Ліонскі конгрэс гэтай партыі ў тым-жа 1927 г. поўнасьцю ўхваліў мілітарыс-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

цкі закон, які цалкам аддае працоўных на самаволю генштабу.

Поль Бонкур—правадыр соцыялістаў і ваенны міністр імпэрыялістычнай Францыі—тыповы прадстаўнік соцыял-фашыстаў, якія зрасьліся з імпэрыялістычнай дзяржавай. Зэвэрынг, прускі міністр, натхняльнік прускай паліцыі, якая расстрэльвае рабочыя дэмонстрацыі. Зэвэрынг—правадыр нямецкіх соцыял-фашыстаў, якія прапануюць Германіі заключыць саюз з Францыяй для сумеснай атакі на СССР. Макдональд, які стаіць на чале ўраду імпэрыялістычнай Англіі—вось яскравыя фігуры міжнароднага соцыял-фашызму, гэтай партыі абароны капіталізму ўсімі, у тым ліку і фашысцкімі мэтодамі, гэтай партыі організатараў вайны супроць СССР.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Абвастрэньне імпэрыялістычных супярэчнасьцяй

Недалёка ад Жэнэвы, у Лёзане, закончыўся яшчэ адзін торг міжнародных дыплёматаў.

Францыя, Англія і іншыя імпэрыялістычныя краіны-пераможніцы, пазбаўленыя магчымасьці, у выніку экономічнага крызісу, атрымліваць ад Германіі рэпарацыі, г. зн. ваенную даніну за пройгрыш сусьветнай вайны, у тых разьмерах, як яны атрымлівалі да гэтага часу, склікалі лёзанскую конфэрэнцыю, каб вынайсьці способы надалей выкачваць сродкі ад Германіі.

Па сканчэньні лёзанскага торгу прэм'ер Англіі Макдональд, прэм'ер Францыі Эрыё і германскі рэйхсканцлер фон-Папен абвясьцілі сьвету аб „шчасьлівым сканчэньні конфэрэнцыі".

Паводле падлікаў, зробленых па сканчэньні лёзанскай конфэ-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

рэнцыі, Германія, апрача таго, што яна ўжо выплаціла рэпарацыі ў разьмеры 41 мільярда марак (паводле іншых вестак — 65 мільярдаў марак) вымушана яшчэ на працягу шмат дзесяткаў гадоў плаціць ваенную даніну якая з гэтага часу будзе мець не такую ненавісную назву, як „рэпарацыі", а бязьвіннае імя „фонду экономічнага аздараўленьня Эўропы". Для таго, каб уявіць сабе, колькі выкачана ваеннай даніны з Германіі, досыць указаць на тое, што на гэтыя сродкі можна было пабудаваць, прыблізна, 160 Днепрабудаў.

Паводле лёзанскай згоды, Германіі давядзецца на працягу шмат дзесяткаў год штогод плаціць 400 мільёнаў марак. Гэта, як адзначыў нядаўна т. Радэк, у лік „ліквідацыі рэпарацый", ня кажучы аб процантах па ўсякіх



ДЛЯ ЗАЎВАГ

пазыках, што ўвогуле перавышае мільярд марак.

Аднак і гэтая новая згода сустракае на шляху свайго ажыцьцяўленьня вялізныя перашкоды.

Яны выкліканы тым, што згода зьвязана з пытаньнем аб ваенных даўгох паміж былымі саюзьнікамі сусьветнай вайны і паміж усімі саюзьнікамі і ПАЗШ. Пасьля заключэньня лёзанскай згоды стала вядома, што ратыфікацыя (зацьверджаньне) гэтай згоды асобным тайным „джэнтльмэнскім дагаворам“ зьвязана з пытаньнем аб адмаўленьні Амэрыкі ад ваенных даўгоў. „Джэнтльмэнская згода“, такім чынам, робіць Амэрыку адказнай за ажыцьцяўленьне лёзанскіх рашэньняў. Гэта акалічнасьць выклікала буру абурэньня ў амэрыканскіх урадовых

кругах і ў амэрыканскім буржуазным друку.

Пасьля доўгага шуму амэрыканскага буржуазнага друку і запаўненьняў клятваю міністраў эўропейскіх краін аб тым, што лёзанская згода не накіравана супроць Амэрыкі, выступіў з заяваю „сам“ прэзыдэнт Гувэр. Гувэр паміж іншым заявіў: „Я жадаю зусім дакладна растлумачыць, што ўрад Злучаных штатаў ня прымаў удзелу ў абмеркаваньні якіх-небудзь згод, заключаных, паводле паведамленьня прэсы, за апошні час у Лёзане і, зразумела, Злучаныя штаты ні ў якой ступені не зьяўляюцца ўдзельнікамі гэтых згод і не нясуць па іх якіх-небудзь абавязацельстваў. Я ня лічу, каб якая-небудзь з гэтых згод мела сваёй мэтаю ажыцьцяўленьне ўзгодне-

ных дзеяньняў нашых даўжнікоў, аднак, калі гэтыя згоды будуць вытлумачаны такім чынам, дык у гэтым выпадку я не надтрымліваю тых хто патрабуе, каб амэрыканскі народ прыняў якія-небудзь меры ці каб палітыка наша ў якой-небудзь меры залежала ад такой комбінацыі".



Гэта заява паказвае, што супярэчнасьці ў сьвеце імпэрыялістаў ня толькі не зьмякчыліся лёзанскай згодай, але наадварот, яшчэ больш абвастрыліся. Ранейшыя дагаворы аб рэпарацыях, у выніку экономічнага крызісу, не забясьпечваюць атрыманьня плацяжоў з абрабаванай і абяскроўленай Вэрсальскім дагаворам Германіі, а новая згода ў Лёзане, г. зн. атрыманьне на аснове яе плацяжоў, ня зможа быць ажыцьцёўлена, бо Амэрыка адмаўляецца зьвязаць пытаньне аб

даўгох з рэпарацыйнай проблемай. Прадатчуваючы ня добрае, Лёйд-Джордж, адзін з аўтараў Вэрсальскага дагавору, у кнізе „Праўда аб рэпарацыях і ваенных даўгох“ моліць як хутчэй упарадкаваць фінансавае пытаньне, бо „мы знаходзімся ўжо на краі катастрофы і раней ці пазьней гэта катастрофа перарасьце ў пагібель існуючага ладу, калі дзяржаўныя дзеячы не набяруцца мужнасьці і ня вырашаць проблемы рэпарацый і ваенных даўгоў. Лёйд-Джордж—стары імпэрыялістычны ліс—мае рацыю. Імпэрыялістычны сьвет на ўсіх парах нясецца да катастрофы.

**Рабочая кляса і працоўныя масы змагаюцца за рэвалюцыйны выхад з крызісу.**

Тав. Сталін сказаў: капіталізм будзе шукаць выхад у вайне, рабочая кляса будзе шукаць выхад у рэволюцыі“. Гэтыя словы, сказаныя

ДЛЯ ЗАЎВАГ

два гады назад на XVI зьезьдзе нашай партыі, поўнасьцю пацьвердзіліся ўсім ходам гістарычных падзей. Ва ўсіх краінах сьвету, пад кіраўніцтвам камуністычных партый, магутна шырыцца рэвалюцыйны рух. Рабочыя, ня гледзячы на разгул рэакцыі, ня гледзячы на белы тэрор, бязупынна дэманструюць на вуліцах сталіц і прамысловых цэнтраў капіталістычных краін, рашуча супраціўляюцца паліцыі, будуюць барыкады, арганізуюць забастоўкі і галодныя паходы, захапляюць фабрыкі, заводы і памешчыцкія землі, разбураюць і падпальваюць маёнткі, адмаўляюцца ад уплаты падаткаў і высяленьня з кватэр, за якія з прычыны беспрацоўя ня могуць плаціць.

Прыклад героічнай рэвалюцыйнай барацьбы паказалі рабочыя

ДЛЯ ЗАЎВАГ

і сяляне Кітаю. Героічная кітайская Чырвоная армія— дзецішча Савецкага Кітаю, які аб'ядноўвае раён з 50—60 млн. насельніцтва, ужо не аднокраць разьбівала войска Чан-Кай-шы, організаваўшага паходы супроць Савецкага Кітаю. Цьвёрдай рукой праводзячы рэволюцыйныя мерапрыемствы Савецкі Кітай указвае шлях барацьбы сотням мільёнаў прыгнечаных народаў Усходу.

Мужная барацьба кітайскіх салдат супроць японскіх інтэрвэнтаў у Шанхаі дала ўсясьветнагістарычны ўзор нацыянальна-рэволюцыйнай барацьбы, якая абуджае рэволюцыйнае сазнаньне прыгнечаных народаў і разьбівае так званы прэстыж „вялікіх“ краін-паразытаў.

Ва ўсіх краінах капіталістычнага сьвету Заходу шырыцца забастоўчы рух. У Англіі за 1931 г.

адбылося забастовак у чатыры разы больш, чым за папярэдні год. Забастоўчая хваля гэтага году ахапіла маракоў, докераў, суднабудаўнічых рабочых, гарнякоў, тэкстыльшчыкаў і рабочых іншых галін прамысловасьці Англіі. Баставалі гарнякі Чэха-Славакіі, мэталісты і тэкстыльшчыкі Германіі, мэталісты Швэцыі, рабочыя аўтозаводаў, мэталісты і тэкстыльшчыкі Францыі, ня спыняюцца забастоўкі і рэволюцыйныя баі рабочых Гішпаніі, значны стачачны рух разгарнуўся ў Японіі, Італіі, Румыніі; буйныя стачкі гарнякоў і мэталістаў адбываюцца ў Бэльгіі, шырокі размах набыў забастоўчы рух у Польшчы.

„Барацьба за жыцьцёвы ўзровень рабочых,—як сказаў у 1921 г. на III конгрэсе Комінтэрну т. Ленін,—вырастае ў ба-

рацьбу за комунізм“. Новае ў міжнародным рабочым руху гэта тое, што рэволюцыйны ўздым ахапіў ужо ня толькі так званыя краіны перарможаныя (Германія), але што на аснове пашырэньня і паглыбленьня экономічнага крызісу мы маем магутны ўздым рэволюцыйнай барацьбы нават у такіх краінах, як Чэха-Славакія, Бэльгія, дзе буржуазія доўгія гады спэкулявала на „дэмократыі“ на нацыялістычных пачуцьцях, чэшскіх і бэльгійскіх рабочых.

Новае ў міжнародным рабочым руху заключаецца далей у тым, што рабочая кляса пераходзіць да разгорнутых стачачных баёў, якія падводзяць яе ва ўмовах усеагульнага крызісу капіталізму да непасрэдных рэволюцыйных баёў. Амаль усюды дзе стачкі пачынаюцца як экономічныя, яны хутка перарастаюць у політычныя,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Гэта з усёй нагляднасьцю паказаў ход статачнай барацьбы. У Чэха-Славакіі экономічная барацьба гарнякоў хутка перарасла ў баявое рэволюцыйнае выступленьне з барыкаднымі баямі з поліцыяй і жандармэрыяй. У Амэрыцы, у штаце Пэнсыльванія, забастоўка 50 тыс. гарнякоў таксама суправаджалася масавымі сутычкамі з войскам і наёмнай поліцыяй шахтаўладальнікаў. У Бэльгіі ўсьлед за абвяшчэньнем забастоўкі, на глебе барацьбы за захаваньне зарплаты, зьявіліся барыкады і палкі кавалеры і тэхнічных відаў зброі. У Бэльгіі, у раёнах Борынажа, Шарлеруа разыграліся сапраўдныя баі, прычым узросшы ўзровень клясавай сьвядомасьці мас выявіўся ў братаньні паміж бастуючымі і салдатамі. Наколькі, высока тут узьнялася хваля клясавай ба-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

рацьбы сьведчыць хоць-бы тое, што вайсковае міністэрства прыпыніла распускаць салдат, якія закончылі тэрмін службы.

Вострыя клясавыя бойкі ў Польшчы і Германіі

Наколькі экономічная стачка ўсё больш ператвараецца ў сродак політычнай барацьбы пролетарыяту з фашысцкім рэжымам і прадпрыемцамі паказваюць таксама падзеі ў Польшчы. У Петракове, у часе забастоўкі рабочых гуты „Гортэнзія“, паліцыі давялося браць яе штурмам, бо стачачнікі ператварылі прадпрыемства ў няпрыступную крэпасьць. На вучастку гуты адбываўся сапраўдны бой, прычым паліцыя пусьціла ў ход задушлівыя газы. Абодва бакі мелі забітых, толькі ад задушлівых газаў загінула 60 рабочых.

У Маках, блізка Варшавы, некалькі соцень беспрацоўных

разброілі паліцыю і, такім чынам, ауладалі горадам. Толькі пасьля прыбыцьця падмацаваньняў з Варшавы была зьнята асада паліцэйскіх, якія забарыкадаваліся ў вучастку. У часе бою з паліцыяй загінулі трое рабочых, а шмат хто атрымаў розныя параненьні. У Радоме беспрацоўныя захапілі харчовыя склады і разьмяркоўвалі харчы сярод галодных. Для барацьбы з рабочымі пілсудчыкі пусьцілі бранявік. У Перамышлі, дзе таксама адбіваліся выступленьні рабочых, інспэктар працы нагла заявіў рабочай дэлегацыі, якая патрабавала работы і хлеба: „У крайнім выпадку я вам магу даць з уласных сродкаў на вяроўку, каб вы на ёй павесіліся“.

У барацьбу ўцягваюцца жонкі і дзеці рабочых і беспрацоўных. У горадзе Ходзежы, дзе дэман-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

стравалі жанчыны і дзеці, перапалоханыя члены гарадзкога самакіраўніцтва выклікалі паліцыю. Гэта каштавала рабочым цяжкіх афяр. Паліцыя кінулася на бяззбройных дэманстрантаў з газавымі бомбамі, на дапамогу прыбеглі мужчыны. Хутка 'далі залп, у выніку якога 11 рабочых было забіта, у тым ліку 78-гадовы рабочы. Усё часьцей гэтай зімою і ў апошні час і ў летнія месяцы беспрацоўныя захапляюць цягнікі з вугалем. Нядаўна ў часе гэткага захопу вугалю паліцыяй быў забіты рабочы. Гэтае забойства выклікала бурныя выступленьні рабочых.

Побач са стачкамі ў Польшчы адбываюцца чыста палітычныя масавыя выступленьні, якія з вычарпальнай паўнатою паказваюць, што ў Польшчы шпарка насьпявае рэвалюцыйная сыту-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ацыя. У сакавіку гэтага году па закліку польскай компартыі, у знак протэсту супроць ліквідацыі рэштак сацыяльнага заканадаўства, у палітычнай забастоўцы прыняло ўдзел 300000 рабочых. У ліку спыніўшых работу былі рабочыя ваенных заводаў. У чэрвені гэтага году адбыліся забастоўкі і выступленьні ў сувязі з абвешчаным компартыяй днём барацьбы з голадам.

У рабочых кварталах Варшавы гэтай зімою адбываліся галодныя дэмонстрацыі дзяцей беспрацоўных. Нават буржуазны друк ня здолеў скрыць жудаснага віду абадраных і босых, ня гледзячы на страшэнны холад, дзяцей, якія вышлі на вуліцу з плякатамі: „Дайце хлеба, дайце работу нашым бацькам і маткам“. Паліцыя, як заўсёды, жорстка

ДЛЯ ЗАЎВАГ

расправілася з юнымі дэманстрантамі.

Аднак зьверскія прасьледваньні і катаваньні ня могуць спыніць лавіну забастоўчага руху. Барацьба разгараецца, у рады рэволюцыі ўліваюцца ўсё новыя і новыя атрады разароных галадуючых сялян. Падамо толькі факты апошніх месяцаў. У друк, ня гледзячы на паліцэйскія рагаткі, праніклі весткі аб бурных выступленьнях украінскіх сялян у Ліскім павеце, Львоўскага ваяводзтва, якія адбываліся ў чэрвені гэтага году, аб анты-фашысцкіх дэманстрацыях у Віленскім і Валынскім ваяводзтвах. Ваеннае камандаваньне паслала для ўсьмірэньня паўстаўшых вёсак некалькі эскадрыльляў ваенных самалётаў. Польскія фашысты для расправы з вёскаю, якая ўжо ня хоча

падпарадкавацца, пачынаюць ужываць тыя самыя „прыёмы“, якія практыкуюць генштабы Англіі і Францыі ў сваіх колёніях для прыдушэньня выступленьняў туземцаў. Нават газэта украінскіх нацдэмаў „Дило“ ня здолела скрыць таго, што ў горадзе Капушы адбылося буйное антыўрадавае выступленьне сялян. Судовы пристаў хацеў адабраць у селяніна за недоімкі выручаныя ім на рынку грошы. У абарону селяніна выступілі 3 тысячы сялян.[1] Паліцэйскіх бомбардыравалі камяньнямі. Рэволюцыйныя выступленьні сялян множацца, як у Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі, так і ў карэннай Польшчы.

У абстаноўцы нячуванай нястачы, і галечы соцыял-поліцэйскіх рэпрэсій і катаржных прысудаў буржуазнага

суду, германскі пролетарыят мужна змагаецца за рэволюцыйны выхад з крызісу, за Савецкую Германію, за зьнішчэньне ланцугоў Вэрсальскага дагавору. Не праходзіць цяпер ніводнага дня бяз вострых сутычак паміж фашыстамі і рабочымі. На адным баку барыкады сталі нацыянал-соцыялісты (фашысты) і іншыя буржуазныя партыі, уключаючы германскую соцыял-дэмократыю, на другім баку барыкады—комуністы і рэволюцыйныя рабочыя і разароныя масы сялянства, якія ідуць за комуністамі.

Дзякуючы правільнай політыцы германскай компартыі, дзякуючы актыўнай абароне штодзенных інтарэсаў працоўных, якую яна вядзе, у Германіі нязьменна ўмацоўваецца адзіны рабочы фронт. У схватках, якія



ДЛЯ ЗАЎВАГ

адбываюцца цяпер на вуліцах германскіх гарадоў, паміж фашыстамі і рабочымі, плячо ў плячо, як сыны аднае клясы, змагаюцца комуністычныя, соцыял-дэмократычныя і беспартыйныя рабочыя.

Аб росьце ўплыву компартыі досыць яскрава сьведчыць той факт, што на прэзыдэнскіх выбарах у Германіі за кандыдата компартыі, за генэральнага сакратара КПГ т. Тэльмана было падана 5 мільёнаў галасоў.

Аб тым, якой вастраты дасягнула клясавая барацьба ў Германіі, паказваюць два наступныя паведамленьні з Германіі, апубкаваныя 19 чэрвеня г. г. у „Правде“.

**Баі ў Гамбургу**

Бэрлін, 18 ліпня. Учора ў Гамбургу адбыліся крывавыя сутычкі паміж нацыянал-соцыялістамі і рэволюцыйнымі рабочымі. Падрабязнасьці такія. У Гам-

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

бургу нацыянал-соцыялісты організавалі зьлёт штурмавых атрадаў Шлезьвіг-Гольштэйна, і вывелі на вуліцу да 5 тысяч штурмавікоў. Узмоцнена ахоўваемыя паліцыяй с.-д. Шэнфэльда, якая загадзя разагнала рабочых, нацыянал-соцыялісты рушылі ў рабочыя кварталы.

Падышоўшы да граніцы Альтоны, нацыянал-соцыялісты ўвайшлі ў кварталы, якія скрозь былі ўпрыгожаны чырвонымі сьцягамі і транспорантамі. Тут пачаліся фашысцкія правакацыі, зьбіеньні і напады, якія нагадваюць форменную карную экспэдыцыю. Раздаліся харавыя крыкі „Разаб'ем чырвоных у кашу". Рабочыя адказвалі: „Далоў фашызм".

Тады на вачох паліцыі з колёны нацыянал-соцыялістаў вышла група і напала на рабочых. Раздалася каманда: „Страляйце ў чырвоных сабак". Фашысты пачалі страляць у паасобных рабочых. На вачох у паліцыі нацыянал-соцыялісты абшуквалі, лавілі і зьбівалі рабочых і работніц.

Рабочыя адразу організавалі абарону. На вуліцы Клейне Фрэйхайт хутка змайстравалі барыкаду з каменьняў і трох перакуленых фурманак. У другім месцы перакулілі вагон трамвая, у радзе месц разабралі брук, адказваючы ўдарам на



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ўдар. Пачаліся перастрэлкі. На Гроссэ Бэргштасэ рабочыя не прапусьцілі колёну нацыянал-соцыялістаў. Поліцыя поўнасьцю падтрымлівала нацыял-соцыялістаў і люта распраўлялася з рабочымі. Узброеная карабінамі і аўтоматычнымі стрэльбамі, поліцыя страляла пачкамі і атакавала брыгаду рабочых. Зьявіліся поліцэйскія бранявікі з кулямётамі.

Буржуазная „Монтаг пост“ піша:

> „Галоўная больніца Гамбургу працуе, як лазарэт на фронце. Да позьняй ночы з вуліц бесьперастанку прыносілі параненых, тут-жа опэравалі і перавязвалі іх“.

**Экстраны выпуск „Ротэ Фанэ“**

Бэрлін, 18 ліпеня. Экстраны выпуск „Ротэ Фанэ“, прысьвечаны крывавым падзеям у Гамбургу, піша:

> „Партыя Гітлера імкнецца ўсімі сродкамі, систэматычнымі провокацыямі дамагчыся абвяшчэньня стану аблогі, накіраванага супроць антыфашысцкага руху, супроць компартыі. Пад абаронаю вінтовак рэйхсвэра партыя Гітлера імкнецца выставіць узброеных фашысцкіх штурмавікоў супроць рабочае клясы. Пад пры-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

крыцьцем стану аблогі яна імкнецца шляхам крывавага тэрору зламаць супраціўленьне рабочых мас, накіраванае супроць надзвычайных дэкрэтаў, супроць зьніжэньня дапамогі, супроць падаткаў на зарплату. Шляхам нячуванага прыдушэньня антыфашысцкіх сіл партыя Гітлера імкнецца папярэдзіць сваё канчатковае выкрыцьцё на пярэдадніх выбараў.

Гамбурскі фашысцкі друк адкрыта патрабуе выступленьня супроць кампартыі, настойваючы, каб яе безадкладна закрылі. Германскі пролетарыят стаіць, можа быць, у бліжэйшыя часы перад рашаючымі падзеямі. Замест таго, каб заклікаць рабочых да баявой гатоўнасьці, соцыял-фашысцкія лібэры дабіваюцца ўстанаўленьня „блёку парадку" аж да Гугенбэрга.

Рабочыя і ўсе працоўныя, рыхтуйцеся да палітычнай масавай стачкі!"

У Амэрыцы клясавая барацьба таксама дасягнула вялікай вострасьці. І найбольш яркім выражэньнем гэтага зьяўляецца паход рабочых вэтэранаў

ДЛЯ ЗАЎВАГ

(былых салдат) сусьветнай вайны, якія ўжылі новую формы абароны сваіх клясавых інтарэсаў. Даведзеныя да апошняй ступені нястачы і голаду, вэтэраны зьвярнуліся да ўраду і сэнату з патрабаваньнем выплаціць ім абяцаную ў свой час розьніцу да пэнсіі, якую яны недаатрымалі ў часе прабываньня ў дзеючай арміі. Ім адмовілі. Тады з усіх бакоў Амэрыкі вэтэраны рушылі ў паход на Вашынгтон. Тут 22-тысячную няўзброенную армію вэтэранаў спаткалі ўзброенныя да зубоў атрады паліцэйскіх. Справа хутка дайшла да вострых схватак, паліцыя пусьціла ў ход газавыя бомбы. І ня гледзячы на тое, што сэнат адмовіўся выканаць патрабаваньні вэтэранаў, ня гледзячы на тое што паліцыя пазбавіла вэтэранаў жыльля і вады, удзельнікі паходу, якія падтрым-

ліваюцца компартыяй, прадаўжаюць барацьбу, разьмясьціўшыся лягерам пад Вашынгтонам.

У гэтыя дні барацьбы рабочых—былых салдат, імі перапрацавана старая народная песенька, якая, як ня трэба лепей, выяўляе настроі працоўных Амэрыкі. Раней у прыпеве песенькі быў такі сказ: „Янкі наступаюць, янкі наступаюць скрозь і ўсюды“. Гэты ганарысты прыпеў цяпер перапрацаваны такім чынам: „Янкі галадуюць, янкі галадуюць скрозь і ўсюды“. У гэтых словах песьні вэтэранаў яскрава адлюстравана становішча дзесяткаў мільёнаў рабочых-амэрыканцаў — яны сапраўды галадуюць „скрозь і ўсюды“.

**У абарону СССР.** Выступленьне міжнароднага пролетарыяту і рэволюцыйнага сялянства праходзіць ня толькі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

пад лёзунгамі барацьбы за чалавечыя ўмовы існаваньня, але і пад яскрава выражанымі антываеннымі лёзунгамі і лёзунгамі абароны СССР. У Германіі у Францыі, у Амэрыцы, у Польшчы, у Чэха-Славакіі, у Англіі і іншых краінах рабочыя, побач з дэманстрацыямі протэсту супроць падрыхтоўкі вайны, пераходзяць да актыўных дзеяньняў, каб перашкодзіць узьнікненьню гэтай вайны.

Рабочыя ваенных заводаў і партоў, маракі, наладжваюць забастоўкі, адмаўляючыся ад пагрузкі ваенных матэрыялаў, выкрываюць на старонках камуністычных газэт ход ваенных падрыхтаваньняў і транспартаваньня зброі.

Група французскіх рабочых ваеннага заводу „Шнэйдэр-Крэзо“ піша ў орган французскай ком-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

партыі „Юманітэ“: „Наш завод зьбіраўся выканаць ваенны заказ для Аргентыны, але з прычыны таго, што імпэрыялісты концэнтруюць усе свае сілы супроць нашае соцыялістычнае бацькаўшчыны—Савецкага саюзу, дык дырэкцыя заводу пачала ў першую чаргу выконваць заказы Японіі і Польшчы. Завод працуе і для Румыніі“. Пералічваючы віды зброі, заказаныя генштабамі Японіі, Польшчы і Румыніі рабочыя далей пішуць: „У той час, як урад не знаходзіць грошай для беспрацоўных і школьнікаў, растрачваюцца мільярды, якія выціскаюцца з плацельшчыкаў падаткаў і аддаюцца ў якасьці пазык Польшчы, Румыніі і інш. краінам з мэтаю падрыхтоўкі вайны. Шнэйдэр хоча вайны і прымушае нас працаваць, як катаржнікаў. Мы

ДЛЯ ЗАЎВАГ

будзем змагацца з вайною, зьнішчыўшы рэжым, які яе падрыхтоўвае“.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

„Ні граша на вайну“.

У самы разгар ваенных дзеяньняў у Манчжурыі і Кітаі, монархіст—пілсудчык Мацкевіч, рэдактар віленскай подленькай газэткі „Слово“, заявіў: „Калі японская зброя зьвергне Савецкую Расію, мы блаславім гэтую зброю“. Рабочыя і сяляне Польшчы, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, высунулі свой лёзунг: „Ніводнага гроша фашысцкаму ўраду на падрыхтоўку вайны супроць Савецкага саюзу“. Гэты лёзунг, які стаў баявым сьцягам абрабаваных сялянскіх мас Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, аб‘ядноўвае найшырэйшыя масы працоўных.

У аднэй з нелегальных брошур, выпушчаных нядаўна ў абарону

СССР компартыяй Заходняй Беларусі, гаворыцца:

„Вопыт мінулай сусьветнай вайны паказаў, што масавыя рэволюцыйныя выступленьні па гарадох і вёсках супроць вайны падрываюць крывавыя пляны буржуазіі, падштурхоўваюць масы да барацьбы супроць сваіх эксплёататараў і прыгнятальнікаў.

На кожным кроку, усімі сіламі трэба перашкаджаць фашысцкаму ўраду, падрываць яго сілы, псаваць, зьнішчаць яго дабро, садзейнічаць яго паражэньню. Няхай Заходняя Беларусь у часе вайны стане вогненнаю заслонаю паўстаўшых мас у абарону Савецкага саюзу супроць паходу крывавага Пілсудзкага. Балахоўскія банды, кожнага балахоўца трэба біць, як ашалелых сабак. Вайна супроць СССР—

ДЛЯ ЗАЎВА

гэта вайна імпэрыялісцкая, накіраваная супроць працоўных мас і, таму, гэтую вайну пературорым у грамадзянскую вайну, супроць капіталістаў і памешчыкаў".

Лёзунг компартыі „У абарону СССР" стаў сьцягам барацьбы за сусьветны Кастрычнік. Ня толькі рабочыя і сяляне, але і салдаты імпэрыялістычных армій, рызыкуючы быць адданымі пад ваенна-палявы суд, братаюцца з дэмонстрантамі і бастуючымі рабочымі. Паводле атрыманых апошніх вестак, у Бэльгіі за адмаўленьне выступіць супроць бастуючых гарнякоў і мэталістаў адданы пад суд 500 салдат. Вядома, што гэтай вясною ў Шанхаі, у раёне баёў, японскія салдаты наладжвалі бунты, адмаўляючыся выступіць на кітайскі фронт. У Мукдэнскай провінцыі супроць паўстаўшага



ДЛЯ ЗАЎВАГ

японскага атраду ў 3000 чалавек была паслана нават цэлая брыгада, прычым бой паміж паўстаўшымі і брыгадаю працягваўся цэлую ноч. Калі рабочыя Токіо даведаліся аб пагібелі паўстаўшых, яны організавалі некалькі мітынгаў памяці паўшых рэволюцыйных герояў.

Гэта рэволюцыйная барацьба перадавых атрадаў японскіх армій кіруецца нашай героічнай брацкай японскай компартыяй. Японская газэта зусім правільна паведамляла, што ў японскім ваенным міністэрстве заклапочаны весткамі з Мукдэну аб тым, што „ў падарунках, якія пасылаюцца Манчжурскай арміі, знойдзены лістоўкі, якія агітуюць супроць вайны".

Усім вядомы таксама непарадкі і хваляваньні ў ваенна-морскім флёце Англіі і Германіі.

Паўстаньні ў флёце адбыліся таксама ў Чылі, дзе ў пачатку чэрвеня рэволюцыйныя рабочыя, сяляне і матросы організавалі савет.

**ДЛЯ ЗАЎВАІ**

Ленінскі лёзунг аб ператварэньні імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую пачынае ператварацца ў жыцьцё кожны раз калі капіталізм спрабуе кінуць працоўных у агонь новых баёў.

**Падрыхтоўка антываеннага кангрэсу**

Супроць вайны, у абарону СССР выступілі таксама лепшыя прадстаўнікі інтэлігенцыі капіталістычных краін. На працягу раду год, падвяргаючыся нападкам і зьневажаньню за пераход у лягер рэволюцыі, францускія пісьменьнікі Анры Барбюс і Ромэн Ролян, наш Максім Горкі германскі профэсар Эйнштэйн, ангельскі пісьменьнік Бэртран Рэ-

сэль і іншыя сьмела выступаюць супроць падпальшчыкаў новай вайны і мастацкім словам і на адкрытай палітычнай арэне. Па іх ініцыятыве 1 жніўня павінен адбыцца міжнародны антываенны конгрэс. Конгрэс павінен быў адбыцца ў Жэнэве. Але швэйцарскі „дэмократычны“ ўрад, які ветла адчыняе дзьверы для якога хочаце зборышча імпэрыялістаў, забараніў наладзіць конгрэс у Жэнэве, баючыся пакрыўдзіць гаспадароў, якія добра плоцяць за гасьцініцы.

Ініцыятыва скліканьня конгрэсу спаткала гарачае падтрыманьне пролетарыяту Францыі, Англіі, Польшчы, Германіі, Грэцыі і іншых краін. Таксама гарачае падтрыманьне спаткала ідэя скліканьня конгрэсу ў асяродзьдзі перадавой інтэлігенцыі розных краін. У Польшчы выпушчана адозва,

падпісаная сэнатарам Багушэўскім, профэсарамі Чарноўскім, Радлінскім, Этынгерам, Райхманам і інш., дзе між іншым сказана: „Не прайшло яшчэ і 14 гадоў з моманту скканчэньня сусьветнай вайны, як мы ўжо ізноў стаім перад пагрозай новай бойні. Гром гармат на Ўсходзе заглушае пацыфіскую фразэолёгію Лігі нацый. Ліхаманкавыя ўзброеньні ў Эўропе, стварэньне пры ўдзеле Францыі опэрацыйнай базы японскага імпэрыялізму ў выглядзе „незалежнае“, нібы, манчжурскае дзяржавы,—накіраванае супроць Савецкага саюзу,—усё гэта праяўленьне нянавісьці і трывогі кіраўнікоў капіталістычнага сьвету ў сувязі з існаваньнем дзяржавы, заснаванай на варожых капіталізму пачатках. Усё гэта сьведчыць аб тым, што мы стаім перад новай ваеннай бурай і перш за ўсё перад

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вайной, накіраванай супроць Савецкага саюзу".

Асабліва пасьпяхова ідзе падрыхтоўка да конгрэсу рэволюцыйных організацыі Францыі. Тут толькі за адзін апошні тыдзень чэрвеня да скліканьня антываеннага зьезду Парыскага раёну адбылося 20 сходаў на заводах і 80 сходаў у паасобных частках гораду.

**Тав. Сталін аб політыцы міру СССР.** У жорсткіх клясавых баёх з капіталізмам і яго фашысцкімі і соцыял-поліцэйскімі паслугачамі, у ходзе барацьбы пераконваючыся ў здрадніцтве соцыял-фашыстаў, наглядна пераконваючыся ў перавагах соцыялістычнай сыстэмы, пролетары капіталістычных краін усё больш магутнаю сьцяною выстройваюцца на абарону сваёй ударнай брыгады—СССР. Мацнее міжнародны фронт абароны СССР.

Вось чаму мы ўпэўнена глядзім наперад, вось чаму мы ведаем, што ў будучай вайне, якую нам навяжуць імпэрыялісты, мы ў лягеры іх армій і ў іх тыле будзем мець надзейных саюзьнікаў і сяброў, якія гатовы ў адпаведны момант павярнуць зброю супроць „уласнай“ буржуазіі.

Тав. Сталін сказаў: „Наша палітыка ёсьць палітыка міру. Гэту палітыку міру мы будзем весьці і надалей, усімі сіламі, усімі сродкамі. Ніводнай пядзі чужой зямлі ня хочам, але і сваёй зямлі, ніводнага вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому“. Абапіраючыся на магутную дапамогу пролетараў усяго сьвету, мы абавязаны, аднак, бязустанку ўмацоўваць нашу абарону, умацоўваць нашу непераможную Чырвоную армію.

І сродкі ажыцьцяўленьня гэтага выразна ўказаў на ліпеньскім

ДЛЯ ЗАЎВАГ

пленуме ЦК КП(б)Б т. Гікала, сказаўшы, што кожны посьпех нашай соцыялістычнай гаспадаркі—выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, сваячасовая ўборка ўраджаю і барацьба са стратамі пры ўборцы, організацыя дадатковага выпуску прадметаў шырокага спажываньня, палепшаньне рабочага снабжэньня і т. д. служаць справе абароны СССР, павышэньню яе абароназдольнасьці.

У справе ўмацаваньня абароны нашых граніц, пад кіраўніцтвам нашай партыі мы дамагліся ўжо вялізных рэзультатаў. Народны камісар па ваенных справах т. Варашылаў заявіў: „Узброеныя сілы нашага Саюзу зьяўляюцца ў організацыйных, баявых і політычных адносінах зусім надзейнаю ўзброенаю апораю дыктатуры пролетарыяту“.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Зьлітаваная моцнай стальной воляй ахоўваць заваёвы Кастрычніка, мірную працу рабочых і сялян СССР, гіганцкія пабудовы першай пяцігодкі, нашы колгасы і саўгасы, Чырвоная армія, як і ўсе працоўныя нашай краіны, калі надыйдзе час рашучай схваткі выканае свой абавязак перад рабочай клясай, перад працоўнымі ўсяго сьвету. Калі імпэрыялісты паспрабуюць напасьці на СССР, рабочыя і ўсе працоўныя Краіны саветаў у асобе сваёй Чырвонай арміі здолеюць ня толькі адбіць інтэрвэнтаў, але і дапамагчы працоўным капіталістычнага Захаду і Ўсходу скінуць ярмо імпэрыялізму.

